ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 17 (2543)
ПЯТНІЦА
23
красавіка 1971

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Гравюра В. ТКАЧУКА.

**КОЖНЫ ГОД ПРЫНОСІЦЬ ЛЕНІНСКАЙ СПРАВЕ НОВЫЯ ПЕРАМОГІ. КОЖНЫ ГОД ІДЭАЛЫ САЦЫЯЛІЗМА І КАМУНІЗМА ЗАВАЁЎВАЮЦЬ УСЁ НОВЫХ І НОВЫХ ПРЫХІЛЬНІКАЎ. З КОЖНЫМ ГОДАМ ЛЕНІНІЗМ УЗМАЦНЯЕ СВОЙ УПЛЫЎ НА ХОД СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ.**

З даклада таварыша К. Ф. Катушава на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 101-й гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна, у Маскве.

# ДА НОВЫХ ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ, ДА НОВЫХ ВЫШЫНЬ

26—27 красавіка ў Мінску адбудзецца чарговы, VI з'езд пісьменнікаў Савецкай Беларусі. Майстры мастацкага слова рэспублікі збяруцца, каб па-гаспадарску, клапатліва і дбайна, падсумаваць вынікі работы пісьменніцкай арганізацыі за апошнія пяць гадоў, акрэсліць планы на будучае

VI пісьменніцкі з'езд адбудзецца ў знамянальны час. Толькі што скончылі сваю работу XXVII з'езд Камуністычнай партыі Беларусі і XXIV з'езд КПСС, які разгледзеў пытанні палітычнай, эканамічнай, ідэалагічнай і арганізацыйнай дзейнасці партыі, падвёў вынікі гераічнай працы савецкіх людзей у мінулым пяцігоддзі, распрацаваў чоткую палітычную лінію, намеціў натхняючыя перспектывы далейшага развіцця нашай краіны.

З вялікай увагай і зацікаўленасцю сачылі за работай з'езда дзеячы літаратуры і мастацтва. Савецкія пісьменнікі звяртаюцца да Камуністычнай партыі са словамі ўдзячнасці за пастаянную ўвагу да іх творчасці, за беражлівыя і патрабавальныя адносіны да таленту мастака, пісьменніка. Вывучаючы матэрыялы з'езда, яны яшчэ глыбей усведамляюць адказнасць за сваю творчасць.

У сэрцы літаратараў глыбока запалі словы Л. І. Брэжнева аб тым, што толькі ў выніку цеснай сувязі мастака з усім шматгранным жыццём савецкага народа з'яўляюцца творы, якія без прыўкрашвання і без смакавання недахопаў асвятляюць мінулае і сучаснае нашага народа, засяроджваюць увагу на сапраўды важных праблемах камуністычнага выхавання і будаўніцтва.

Гады, што раздзяляюць V і VI пісьменніцкія з'езды, сталі для нашай літаратуры гадамі далейшага развіцця, гадамі яе росквіту і сталасці. Яны былі асветлены важнымі падзеямі ў жыцці нашага грамадства — 100-годдзем з дня нараджэння Ул. І. Леніна і 50-годдзем Беларусі і Камуністычнай партыі рэспублікі.

Гэта таксама былі гады далейшага паглыблення сувязей літаратуры з жыццём народа, яго клопатам і справамі. Дні літаратуры, прысвечаныя XXIV з'езду КПСС, якія прайшлі ва ўсіх абласцях рэспублікі і ў якіх прыняло ўдзел больш 100 пісьменнікаў, — яскрава засведчылі, што працоўныя чакаюць ад літаратараў твораў, высокага грамадскага гучання, насычаных пафасам стваральнай працы савецкіх людзей, твораў, якія б служылі пачэснай справе духоўнага выхавання чалавека, актыўнага будаўніка новага грамадства.

Грамадзянская актыўнасць, высокая ступень сацыяльнай і духоўнай напоўненасці, засяроджанасць на важнейшых праблемах развіцця нашага грамадства, пільная цікавасць да чалавека працы — гэтыя рысы з'яўляюцца вызначальнымі ў развіцці сённяшняй беларускай літаратуры.

За апошнія гады пісьменніцкая арганізацыя рэспублікі папоўнілася цікавымі маладымі сіламі, якія нясуць у літаратуру нямала новых тэм. Творчая моладзь — гэта будучае нашай літаратуры, яе заўтрашні дзень. Часам ёй нестае жыццёвага вопыту, майстэрства, але радуе тое, што яе пошукі ідуць у рэчышчы лепшых традыцый роднай літаратуры.

VI з'езд пісьменнікаў Беларусі зробіць падрабязны аналіз здабыткаў у галіне прозы, паэзіі, драматургіі, дзіцячай літаратуры, крытыкі. Але гаворачы пра поспехі нашай літаратуры мы не павінны забываць пра яе недахопы і пралікі, пра тое, што неабходна яшчэ зрабіць.

У прамове П. М. Машэрава на XXVII з'ездзе Камуністычнай партыі Беларусі гаварылася, што ў нас яшчэ з'яўляюцца творы, праблематыка і канфлікты якіх недастаткова глыбокія, а характары герояў не раскрываюцца ва ўсёй іх складанасці і жыццёвай дакладнасці. Не можа не хваляваць пісьменнікаў і стан рабочай тэмы, якая не заняла пакуль належнага месца ў літаратуры, хаця за пасляваенныя гады рабочы клас рэспублікі значна вырас, стаў вядучай сілай у народнай гаспадарцы. Новыя кнігі аб працаўніках заводаў і фабрык, аб нашых слаўных будаўніках яшчэ чакаюць сваіх творцаў.

Гаворачы пра недахопы літаратуры і мастацтва, якія ў цэлым паспяхова развіваюцца, Л. І. Брэжнеў звярнуў увагу на дзве крайнасці, якія мелі месца сярод асобных літаратараў. Той-сёй спрабаваў звесці разнастайнасць сённяшняй савецкай рэчаіснасці да праблем, якія беззваротна адышлі ў мінулае. Былі таксама спробы законсерваваць уяўленні, погляды, якія ідуць уразрэз з тым новым, творчым, што партыя ўнесла ў сваю практычную і тэарэтычную дзейнасць за апошнія гады.

Поспехі савецкай літаратуры і мастацтва былі б яшчэ больш значнымі, а недахопы выпраўляліся б яшчэ хутчэй, гаворыцца ў Справаздачным дакладзе ЦК КПСС, каб наша літаратурна-мастацкая крытыка больш актыўна праводзіла лінію партыі, выступала з большай прынцыповасцю, спалучаючы патрабавальнасць з тактоўнасцю, з беражлівымі адносінамі да творцаў мастацкіх каштоўнасцей.

Літаратурную грамадскасць рэспублікі не задавальняе сённяшні стан крытыкі, якая яшчэ слаба ўмешваецца ў літаратурны працэс, часам, неглыбока, без належнай патрабавальнасці ацэньвае творы, праходзіць міма сур'ёзных пралікаў у творчасці асобных аўтараў.

Нямала недахопаў і ў арганізацыйным жыцці Саюза пісьменнікаў. Некаторыя пытанні, часам выносяцца на пасяджэнні прэзідыума праўлення і творчых секцый, без належнай падрыхтоўкі, а таму вырашаюцца павярхоўна. Ёсць шмат недахопаў і пралікаў у справе прапаганды беларускай літаратуры, яе шырокага выхаду далёка за межы рэспублікі.

Некаторыя праблемы развіцця нашай літаратуры за перыяд паміж з'ездамі, пытанні творчага і арганізацыйнага парадку былі закрануты ў перадз'ездаўскай трыбуне, якую правёў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». Вядома, не ўсе думкі, выказаныя ў час гэтай гаворкі, з'яўляюцца бясспрэчнымі. Думаецца, што на з'ездзе яны будуць дапоўнены, пашыраны, удакладнены.

VI з'езд пісьменнікаў Беларусі павінен стаць сур'ёзнай справаздачай перад народам, перад патрабавальнымі чытачамі, з'ездам глыбокага грамадзянскага роздуму над задачамі, якія ставіць перад літаратурай наша рэчаіснасць. Шырокае абмеркаванне дзейнасці пісьменніцкай арганізацыі, аб'ектыўны аналіз творчых здабыткаў і недахопаў памогуць пісьменнікам сумеснымі намаганнямі вызначыць планы на будучыню.

Няма сумнення ў тым, што VI з'езд пісьменнікаў Савецкай Беларусі пройдзе ў дзелавой, прынцыповай абстаноўцы, пад знакам гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС, што пісьменнікі засяродзяць сваю ўвагу на важнейшых праблемах творчага жыцця саюза, глыбока прааналізуюць нашы поспехі і недахопы як у межах паасобных жанраў, так і ў творчасці тых пісьменнікаў, мастацкія пошукі якіх пазначаны імкненнем бліжэй стаць да надзённых праблем сучаснасці, да таго, чым жывуць сённяшнія працаўнікі горада і вёскі, наша савецкая інтэлігенцыя.

Беларускія літаратары з гонарам апраўдаюць давер партыі, будуць і надалей актыўна ўдзельнічаць у развіцці ленінскіх прынцыпаў партыйнасці і народнасці мастацкай творчасці, павышэнні ідэйна-мастацкай якасці сваіх твораў і аддадуць усе свае сілы перамозе вялікіх ленінскіх ідэй.

В. МЫСЛІВЕЦ

# НА ПОДСТУПАХ ДА ГАЛОЎНАЙ ТЭМЫ

З АХВОТАЙ бяруся пісаць пра адлюстраванне ў нашай літаратуры сучаснасці, як тэмы дня, пра тыя набалелыя праблемы, якія на сённяшнім этапе літаратурнага развіцця сталі першачарговымі.

Менавіта за леташнюю восень, дзякуючы частым і шматлюдным выездам пісьменнікаў у вобласці, пасля пабывак на заводах і новабудоўлях, у калгасах многія з нас не толькі ўбачылі, але адчулі душою, пераканаліся, як творча ўзбагаціліся, натхнёна працуюць нашы людзі. І ў першую чаргу, авангард краіны — рабочы клас.

Не трэба спадзявацца, што такія мімаходныя наезды паслужаць матэрыялам для стварэння паўнацэнных мастацкіх твораў. Прыкмеціць штонебудзь новае, вартае ўвагі ў дарожным тлуме не так і лёгка. Але ж пачатак ёсць. Народ стварае, расце духоўна, узбагачае славу і гонар Айчыны. І кожны, хто быў сведкам такіх вялікіх дасягненняў, будзем спадзявацца, не сёння дык заўтра ўзрушыцца жаданнем глыбей і шматграннеей пазнаць жыццё, усхвалявана і шчыра расказаць пра гэта чытачу.

**1.**

...Успамінаю свой першы прыход у заводскі цэх. Высокі, светлы, ён проста халадзіў мяне сваёй таямнічасцю, незразумелымі ўзорамі мадэляў каля кантрольнай пліты. Усё тут было не так, як у калгаснай стальмашні. І людзі здаліся нейкімі волатамі: дужэйшымі; спрытнейшымі, недасягальна разумнейшымі, чым аднавяскоўцы.

А то раптам падбягае блізка адзін з такіх «волатаў»... усяго па плячук мне.

— Пётр Міхалькевіч... Твой настаўнік, — вітаецца за руку і гаворыць:— Пойдзем да варштата. Скінеш свой флоцкі бушлат. Ды і клёш, каб лягчэй было, зменіш на картовікі... Шчыты будзеш клеіць...

Мяне ажно здрыганула ад такой яго праматы, падумалася тады — настырнасці. Нічога ж не разумею, што да чаго ў цэху, а ён... Ды Пётр Паўлавіч не зважае на маю разгубленасць. Ківае галавою, каб ішоў за ім. І ўжо расказвае, што ўзбоч з намі стракаціць стужкавая піла, лявей — вужакай звіваецца шліфавальны круг, там рэйсмус грыміць, як рэактыўны самалёт, далей фуганак...

Праз месяц, дзякуючы настойлівасці, уменню Пятра Паўлавіча расказваць і паказваць, цярплівасці да маіх няўдач і клапатлівай бацькоўскай спагады, выйшаў я на самастойную працу.

На маіх вачах Міхалькевіч яшчэ некалькі чалавек, як кажуць, вывеў у людзі. Міхалькевіча запрасілі ў школу майстроў, што арганізавалася пры заводзе і без адрыву ад вытворчасці рыхтавала спецыялістаў для сваіх патрэб. Пасля заканчэння вучобы яго прызначылі майстрам вытворчага навучання моладзі. Дзесяткі людзей, што называецца, прайшлі праз яго рукі.

Цяпер Пётр Паўлавіч Міхалькевіч — начальнік мадэльнага цэха.

За які дзесятак гадоў кожны трэці мой сябар з завода выйшаў у майстры, тэхнолагі, канструктары, начальнікі службаў і аддзелаў. І сёння, падрыхтаваныя для кіраўніцтва, ёсць людзі ў цэху. Але ж вельмі ўпарцяцца падавацца ў начальства. Што там ім пасада майстра ці тэхнолага, маўляў. Бегай па заводзе з паперкамі. А то стаў ля варштата, «адчыбучыў» мадэль — і дзвесце рублёў у кішэні, і галаве ніякай марокі...

На пачатку знаёмства дзікаватым чалавекам здаваўся мне Васіль Купчын, будаўнік з Наваполацка. У першыя пасляваенныя гады ў Ашхабадзе ён закончыў школу майстроў, выбіўся там у прарабы і доўга працаваў начальнікам участка. На новабудоўлю ехаў, пэўна, без думкі пра паніжэнне. А тут начальства з просьбай: павучы трохі маладых будаўнічай справе. І камуніст Купчын, адчуўшы безвыходнасць становішча ва ўпраўленні, ідзе ў брыгадзіры. Дзесяткам, сотням бязвусых юнакоў, дзяўчаткам пасля школы, дае, што называецца, хлеб у рукі. І як бы ні крыўдзілі яго часам яго ж навучэнцы, Васіль Купчын знаходзіць мужнасць у цяжкую хвіліну перамагчы асабістую злосць і прыходзіць ім на дапамогу...

Ёсць, вядома, і людзі другога парадку: выпівакі, прагульшчыкі, хапугі. Скажам, за мінулы год на Мінскім маторным заводзе ў шматтысячным калектыве такіх злосных парушальнікаў выявілася ажно... шэсць чалавек! Гэта і многа, калі гаварыць пра тое, што ў сацыялістычным грамадстве, наогул, не павінна быць ніякіх адступнікаў. Але ж гэта і так мала ў параўнанні з той арміяй працаўнікоў, якая сумленна, шчыра, самаадданa здзяйсняе велічныя планы пабудовы светлай будучыні.

Шмат нам трэба зрабіць у справе наладжвання кантактаў паміж пісьменнікамі і рабочымі. Акрамя, так сказаць, аб'екта адлюстравання, нас рабочы чалавек павінен цікавіць і як чытач. Прайшлі дні нашай літаратуры ў абласцях рэспублікі... Не сакрэт, што непараўнальна большую частку аўдыторыі, перад якой даводзілася выступаць пісьменнікам, складалі студэнты, навучэнцы, вучні, бібліятэкары. Рабочай «праслойкі» было мала.

Няма шкоды ў тым, вядома, што студэнты і школьнікі запаўнялі аўдыторыі. Але ж яны і без таго маюць дачыненне да літаратуры. А вось рабочыя... Шчыра кажучы, зусім не думаю, што дзевяноста дзевяць са ста пасля змены чытаюць беларускія кніжкі. Хоць рабочы клас сёння — добрая палова насельнікаў рэспублікі. Адно падумаць, колькі чытачоў было б, калі б знайсці сцяжынкі да іх сэрцаў. І пажадаць бы хацелася кіраўніцтву Саюза пісьменнікаў, каб смялей брала справу арганізацыі ўсіх відаў прапаганды мастацкага слова ў свае рукі.

**2.**

Крытычная думка апошніх год, бадай, аднадушна сышлася на тым, што без глыбокай разведкі нашай літаратуры не заняць новых вышынь. Ва ўсякім выпадку, шматразовым сцверджанням Ул. Юрэвіча пра ролю нарыса не было пярэчанняў ні ў друку, ні вусна. Заглянем у Вялікую Савецкую Энцыклапедыю:

«Нарыс — адзін з відаў (мастацкай, навуковай, публіцыстычнай) апавядальнай літаратуры, у аснове якога ляжыць узнаўленне рэальных фактаў, падзей, асоб, якія бачыў аўтар непасрэдна ў самім жыцці».

Як не трэба лепш выказана ісціна! І калі б усе пагаджаліся з гэтым, дык пра што было б і гаварыць. А то нярэдка чуеш: што ты ўсё мне пра гэтых людзей ды людзей, дай праблему. Або: ты вось пішаш у нарысе, што на будоўлі не хапае цэменту — вывучыў бы лепш усебакова праблему, прапясочыў начальства. Ці такое: ты пішаш, што пусцілі першую чаргу Салігорскага калійнага камбіната, а я ўжо чытаў пра гэта ў газеце. Нарэшце: пішаш ты няблага, але хацелася б, каб ты глыбей капануў. На першы погляд, усе гэтыя патрабаванні законныя: і праблемы трэба падымаць (так і просіцца сказаць: нацэльваць увагу спецыялістаў на нявырашаныя праблемы), і прапясочваць начальства (раз яму даверылі, дык хай за ўсім і глядзіць), і бегчы навыперадкі з газетай (газета ж толькі называе факты, падзеі, людзей, а нарысіст павінен перадаць думкі, пачуцці, перажыванні, удзел гэтых людзей у падзеях, раскрыць іх характары, намаляваць партрэты тыповых прадстаўнікоў часу, паказаць узаемаадносіны розных сацыяльных груп на фоне велічы здзяйсненняў), і зарывацца глыбей (у жыццёвыя пласты, што нікому і ніколі не шкодзіла).

У пацвярджэнне сваіх думак прывяду толькі некалькі выказванняў вядомых нарысістаў

**Г. РАДАЎ:**

«Мнагалікія вытворчыя праблемы публіцыстыка правярае людскім характарам, яна выводзіць на знешнасць людскія страсці, яе цікавіць, мусіць,

(Заканчэнне на 4-й стар.).

Вячаслаў РАГОЙША

# ЧАС — ЧЫТАЧ — ЛІТАРАТУРА



ПІСЬМЕННІК напісвае, чытач пачытвае... Так ахарактарызаваў калісьці У. І. Ленін сувязі літаратара і чытача ў буржуазным свеце. Відавочна, што наша сацыялістычнае грамадства не можа дапусціць такіх панска-пагардлівых ці, з другога боку, абыякава-ўсёдаравальных адносін паміж стваральнікам мастацкіх каштоўнасцей і іх непасрэдным спажыўцом. Пісьменнік павінен бачыць перад вачыма таго, да каго звяртаецца, у чыім сэрцы хоча знайсці водгалас. У той жа час, чытач (і зусім справядліва) ставіць перад пісьменнікам свае патрабаванні, прад'яўляе пэўныя прэтэнзіі, дае галоўную ацэнку зробленаму.

Хто ж яны, сённяшнія чытачы беларускай літаратуры? Ці заўсёды нашы пісьменнікі ўлічваюць іх патрэбы, густы, іх інтэлектуальны ўзровень? Менавіта пра гэта і пойдзе гаворка ў артыкуле.

НЕЦІКАВУЮ кніжку чытаць будзе сёння хіба што крытык, ды і то толькі па прафесійным абавязку. Твор, які не прыносіць эстэтычнай асалоды, — гэта той жа халасты выстрал. Нават у тым выпадку, калі маюцца ў ім і пазнавальны матэрыял, і правільныя, слушныя думкі. Сёння як ніколі актуальна гучаць словы В. Бялінскага аб тым, што «вызначэнне ступені эстэтычнай вартасці твора павінна быць першай справай крытыка». На жаль, мы часам забываемся пра гэты запавет заснавальніка рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай крытыкі.

Не будзе адкрыццём, што наш чытач, асабліва малады, зараз надзвычай горнецца да мемуарнай, а таксама прыгодніцкай і дэтэктыўнай літаратуры. Можна гэта асуджаць, як падчас робіцца ў паасобных артыкулах, можна паблажліва дараваць. Але такая з'ява існуе і неабходна ў ёй разабрацца. Тым больш, што вытлумачыць яе, думаецца, не асабліва цяжка.

З аднаго боку, разумную фантастыку, прыгодніцкі і добры дэтэктыўны раман **цікава** чытаць, ён з першых старонак бярэ цябе ў палон і не адпускае да самага канца. Ці не таму сённяшнія маладыя фізікі, якія часамі выразней за Ст. Лема бачаць рэальныя магчымасці навукі, сённяшнія юрысты, якія добра адчуваюць надуманасць сюжэтных хітраспляценняў Ж. Сіменона, усё ж з ахвотаю чытаюць творы гэтых аўтараў?! З другога боку, у мемуарнай літаратуры надзвычай малы працэнт вымыслу, і чытач, які хоча **пазнаць** нейкую з'яву жыцця, канечне ж, звернецца ў першую чаргу да праўдзівага слова сапраўднага яе сведкі. На жаль, шматлікія нецікавыя, мала даставерныя, непраблемныя творы пра нашу сучаснасць, у якіх на першым плане не чалавек, а тэхналагічны працэс, машыны, севазвароты і г. д. могуць прывесці да своеасаблівай дэвальвацыі сучаснай тэмы ў літаратуры. Таму ў нас сёння на парадку дня і стаіць пытанне вярнуць сучаснай тэме яе сапраўдную каштоўнасць, належную вартасць. Сапраўды, знайсці кнігу, каб у ёй глыбока даследаваўся свет сучасніка, вытлумачвалася сутнасць важнейшых грамадскіх пераўтварэнняў, ды ўсё гэта з пазіцыі чалавечнейшых нашых ідэалаў, ды з выяўленнем сапраўдных страсцей, парыванняў, з належнай доляй займальнасці, — такую кнігу знайсці вельмі і вельмі цяжка. Назваць хіба што можа (з твораў самага апошняга часу) раман «Снежныя зімы» І. Шамякіна.

І. Шамякін, безумоўна, — самы чытэльны з сучасных беларускіх пісьменнікаў. Вядомасць і аўтарытэт яго сярод чытачоў велізарныя. Я сам бачыў, як у Львове выстройвалася чарга каля кніжнага кіёска: прывезлі новы раман пісьменніка. Часам можна пачуць: гэта ідзе выключна ад умення празаіка «закруціць» сюжэт. А хіба хто-небудзь з беларускіх пісьменнікаў так хутка адклікаецца на надзённыя праблемы дня, смела і мужна ўздымае часамі даволі балючыя пытанні рэчаіснасці? А няўжо няма ў І. Шамякіна яскрава і выпукла выпісаных чалавечых характараў? Урэшце, няўжо ўмелае, з належнай доляю інтрыгі, даследаванне супярэчнасцей, сімпатый і антыпатый і ўвогуле ўзаемаадносін людзей — гісторый росту і арганізацыі таго ці іншага характару, тыпу (такое вызначэнне сюжэту даў М. Горкі), — не сімпатычная прыкмета таленту мастака, яго творчага майстэрства? Калі б большасць твораў чыталіся з такой неаслабнай увагай, як раманы і аповесці І. Шамякіна, то і свае выхавальныя функцыі беларуская літаратура выконвала б самым належным чынам.

Галоўную ўвагу пісьменнік звяртае на пазнанне таямніц чалавечага духу. Яны раскрываюцца часцей за ўсё ў найбольш важныя, пераломныя моманты развіцця чалавечага грамадства, і таму пісьменнікі, зразумела, ахвотней звяртаюцца менавіта да гэтых момантаў. Аднак духоўнае самавыяўленне чалавека адбываецца не толькі ў клопатах надзённых, але і штодзённых, не толькі ў падзеях значных, але і справах знешне малапрыкметных. Нездарма Кузьма Чорны гаварыў, што пра родныя яму Цімкавічы і цімкаўцаў мог бы пісаць усё жыццё, хоць на Цімкавічах, як кажуць, і не сышоўся свет клінам.

Разам з тым, гэтае пазнанне, выяўленне глыбінь людскога духу — не самамэта для пісьменніка. Яно існуе ў імя выхавання і перавыхавання чалавека, сцвярджэння чалавечага ў чалавеку, бо «без чалавечнасці няма і вечнасці» (П. Панчанка) — няма сэнсу ні ў навуковых адкрыццях, ні ў грамадскім перайначванні жыцця. На жаль, пра гэтыя галоўныя патрабаванні эстэтыкі літаратуры мы падчас забываемся. Тады ў цэнтры твора становіцца не чалавек з усімі яго думкамі і перажываннямі, радасцямі і горам, а нейкая падзея, з'ява жыцця, што поўнасцю ці амаль поўнасцю засланяе сабою чалавека. Часам нават і крытыка пра вартасць твора мяркуе **толькі па тым,** ці надзённую тэму, ці невядомы дагэтуль «пласт жыцця» закрануў пісьменнік. Канечне, і тое і другое — важная перадумова поспеху літаратара, але яшчэ не сам поспех. Ва ўсіх падзеях і перыпетыях грамадскага жыцця неабходна перш-наперш бачыць чалавека, пісаць пра чалавека і ў імя чалавека, адкрываць самацветы чалавечай душы. Бо надзённасць з часам праходзіць, становіцца будзённшчынай, невядомыя раней факты і з'явы даследуюцца, і твор, калі ў ім мала чалавеказнаўчага зместу, забываецца. Літаратура, як дакладна вызначыў яе сутнасць М. Горкі, — гэта ж чалавеказнаўства, народазнаўства, а не проста ілюстрацыя да нейкіх, хай сабе цікавых і значных, гістарычных падзей.

Возьмем для прыкладу творы фантастычнага і прыгодніцкага жанраў, дзе героі дзейнічаюць у неспадзеўных ці неверагодных абставінах. Надзённасць тэм іх (у вузкім разуменні) прайшла. Даўно адкрыты і абжыты зямная суша, пазнаны ў многім акіян, зведаны раней нязведаныя шляхі. Але ўсё ж па-ранейшаму з неаслабнай увагай чытаюцца раманы і аповесці Жуль Верна, Фенімора Купера, Марка Твена, Янкі Маўра. І гэта таму, што пры ўсёй незвычайнасці падзей і абставін у цэнтры іх твораў — людзі. Людзі, якіх мы любім ці ненавідзім, імкнемся ім падражаць, ці закляймім ганьбай.

У КРЫТЫЧНЫХ аглядах нашай літаратуры найчасцей падкрэсліваецца, што ў нас недастаткова твораў пра рабочы клас, пра горад. Сапраўды, у нас мала такіх твораў, яшчэ менш — добрых твораў. Хто піша пра горад? І. Шамякін, А. Савіцкі, Ул. Карпаў, А. Кулакоўскі, некалькі маладзейшых празаікаў. Вось і ўсё. А Беларусь з кожным годам становіцца ўсё больш гарадской краінай. Вось-вось за мільён жыхароў будзе ў Мінску, хутка па некалькі сотняў тысяч стане ў Гомелі, Віцебску, Бабруйску, Гродне, Брэсце. Цяпер пакуль што жыве ў беларускіх вёсках больш людзей, чым у гарадах, але не на шмат. Колькасць вясковага насельніцтва будзе няўхільна скарачацца і далей. Гэта абумоўліваецца шпаркім развіццём прамысловасці, тэхнізацыяй сельскай гаспадаркі. І калі беларуская літаратура хоча ісці ў нагу з жыццём, калі не жадае страчваць вялікую чытацкую аўдыторыю, то яна павінна звярнуць увагу на горад.

Усё гэта так. Але давайце глянем на гэтую праблему крыху з іншага боку. Амаль усе беларускія пісьменнікі нарадзіліся і выраслі ў вёсцы. Вёску яны добра ведаюць, і ў даследаванні псіхалогіі менавіта вясковага жыхара дабіваюцца значных поспехаў. Ды і асноўны чытач беларускай літаратуры — гэта сённяшні ці ўчарашні вясковец. Значыць, кнігі трапляюць да таго, пра каго яны і напісаны, і іх каэфіцыент карыснага дзеяння, калі можна так сказаць, ад гэтага толькі ўзрастае.

Што ж, выходзіць, — і пісаць пра горад і, адначасова, не пісаць? Сапраўды, дылема! Думаецца, што вырашэнне яе (зразумела, для пісьменнікаў «вясковай» тэматыкі і на сучасным этапе) можна было б пачаць з напісання цікавых нарысаў пра знатных людзей прамысловасці, вытворчасці і навукі. Добры нарыс (накшталт некаторых нарысаў В. Мысліўца) прынясе большую карысць, чым пасрэдная аповесць ці раман на тую ж тэму. А пісаць ёсць пра што. Дзяржаўную прэмію па навуцы і тэхніцы за мінулы год атрымалі калектывы вядомага ва ўсёй Еўропе Мінскага завода электронна-вылічальных машын і стваральнікі Полацкага нафтаперапрацоўчага комплексу. **Мастацкі** твор пра людзей гэтых прадпрыемстваў напіша далёка не кожны пісьменнік. Тут трэба і спецыяльная падрыхтоўка, і глыбокае пранікненне ў духоўны свет рабочых і інжынераў, і шматгадовыя назіранні над іх жыццём і працай. Безумоўна, усё гэта патрэбна і нарысісту. Але далёка не ў той ступені, як, скажам, аўтару рамана.

Тэма горада з часам займе ў беларускай літаратуры гэткае ж пачэснае месца, як і тэма вёскі. У гэтым няма сумнення. Вялікая «гарадская» проза з'явіцца разам з прыходам у літаратуру таленавітых пісьменнікаў-гараджан, будзе стварацца па меры «урбанізацыі» псіхалогіі літаратараў, якія выраслі ў вёсцы.

І яшчэ на адно хочацца звярнуць увагу. Мы звычайна не ўлічваем набыткаў паэзіі ў адлюстраванні так званай урбаністычнай тэмы. Міма ўвагі даследчыкаў праходзіць тое, што лірыка сёння ўсё больш і больш выяўляе думкі і перажыванні менавіта гараджаніна. Безумоўна, многія рэаліі ў яе застаюцца вясковыя. Але ж свет прыроды, маленства ніколі не страціць сваёй прывабнасці, назаўсёды застанецца для паэтаў, як і для ўсіх людзей, крыніцай эстэтычных перажыванняў. Намнога важней, што погляд паэтаў на падзеі і з'явы жыцця абумоўліваюцца сёння не супярэчлівай ранейшай сялянскай псіхалогіяй, а перадавымі ідэямі часу, носьбітам якіх з'яўляецца ў першую чаргу рабочы клас — жыхар горада. Урэшце, ў лірыцы страчваецца мяжа паміж тэмай горада і сяла, найбольш выразна відаць штучнасць такога падзелу. Чытаючы многія творы А. Твардоўскага, Э. Межалайціса, Р. Гамзатава, М. Танка, А. Куляшова, мы менш за ўсё задумваемся — пра каго, селяніна, рабочага ці інтэлігента, яны напісаны.

Бясспрэчна, беларуская мастацкая літаратура апошнім часам пачала глыбей і больш думаць. Відаць гэта яскрава ў прозе. Філасофія жыцця, а не проста малюнкі ўзаемаадносін у грамадстве, ляжыць у аснове мастацкай канцэпцыі «Людзей на балоце» і «Подыху навальніцы» І. Мележа, «Сэрца на далоні» і «Снежных зім» І. Шамякіна, «Птушак і гнёздаў»

# НА ПОДСТУПАХ ДА ГАЛОЎНАЙ ТЭМЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

не столькі сама вытворчасць, колькі чалавек на ёй. Без такога ачалавечвання тэхнікі немагчыма, па сутнасці, зразумець глыбінны характар сучаснага грамадска-палітычнага жыцця».

**А. МЕДНІКАЎ:**

«Чалавек стаў знікаць з нарыса, жывы чалавечы матэрыял стаў падмяняцца сухой праблемнасцю, паток інфармацыі стаў выціскаць свет эмоцый, які не выкажаш у лічбавых выкладках».

**І. ІРОШНІКАВА:**

«Мы вельмі часта захапляемся пастаноўках рознага роду праблем — эканамічных, тэхнічных, сацыяльных — і далёка не заўсёды правяраем іх пачуццёвым вопытам жывога чалавека».

**А. МЕДНІКАЎ:**

«Мастацкі нарыс — гэта не адыход ад жыццёва важных праблем явы, проста ў яго іншыя адносіны да яе. Тут існуюць людзі **жывыя і рэальныя** (падкрэслена мною **В. М.**), якія ўсёй сутнасцю сваёй дзейнасці, творчасці якраз ставяць і вырашаюць гэтыя самыя праблемы.

Людзі жывыя і рэальныя... Ніхто нават агаворкі не дапускае, што нарыс можа быць пабудаваны на выдумцы, на фантазіі, на абстрактным матэрыяле, на кастрояваных характарах, да чаго нярэдка апускаецца наша нарысістыка. Знешне, быццам, гладчэй, глыбей, больш дасканала ў мастацкіх адносінах. А на справе — выдумка, падробка пад праўду, якая зводзіць у зман чытачоў, разведка за тысячы вёрст ад перадавой. Гаворка ідзе пра нарысы без адраса, пра нарысы без жывых, рэальных людзей, якім крытыка часам сіліцца надаць папулярнасць, зацвердзіць у якасці эталона.

Мне думаецца вось што. Мы павінны прыцягваць як мага больш да ўдзелу ў друку тых рабочых, якія маюць што сказаць, маглі б сказаць, калі б мелі ў кожным выданні свой куточак, які б так і называўся — «Трыбуна рабочага». Вядома, справа не ў назве. Зусім не смешна, што цэнтральная фігура нашых дзён нават у святы перастала аб сабе заяўляць цераз друк. Газетныя скараспелкі тут не ў залік. Нам трэба глыбока і ўсебакова ведаць, якімі праблемамі жыве рабочы клас, чаго хоча і як здзяйсняе свае задумы. Літаратура, колькі б ні блукалі кружнымі гасцінцамі, не можа абысціся без галоўнага героя дня.

І нарыс, бачыцца мне, сёння з найбольшай аддачай можа папрацаваць і на сучасніка, і на літаратуру ў цэлым.

### 3.

За пасляваенныя гады беларуская літаратура займела шэраг цікавых твораў, выявіла дзесяткі талентаў з народа. І ўсё ж мы вымушаны прызнаць, што радаснай, незабыўнай сустрэчы з чалавекам горада і вёскі не адбылося.

Як правіла, няўдачы літаратуры «на сельскай ніве» спісваюцца на тэорыю бесканфліктнасці, якая, быццам, пісьменнікам рабочай тэмы не замінала. Апраўданне, па-мойму, больш чым беспадстаўнае. Досыць мінула гадоў, каб паправіцца і паказаць тое пасляваеннае жыццё ў паўнаце і шматграннасці. Больш таго, не паўтараць хоць бы тых заган у творах пазнейшага часу, бо і такое назіраецца.

Прычыны творчых пралікаў, відаць, у тым, што ўсё ж непараўнана складаным быў і застаецца наш пасляваенны, уключна да сённяшняга дня, этап перабудовы і развіцця краіны.

Людзям вёскі вайна сказала і даказала: ваша сіла ў калектывізме. Зноў жа вайна паказала народу: аснова магутнасці сацыялістычнай дзяржавы — цяжкая індустрыя. Партыя ўсе рэзервы скіроўвае на будаўніцтва прамысловых гігантаў. Былыя партызаны, франтавікі ўзводзяць цэхі, ставяць дамы. У горад прыбывае вясковая моладзь. Па сваім становішчы — гэта рабочы клас. Па звычках жа, характары, псіхалогіі — апрануты ў камбінезон, увішны да працы селянін. «Чыстага» рабочага класа як быццам няма. А той-сёй з літаратараў пачынае глядзець на селяніна як на захавальніка даўніны, а на рабочага — як на нейкага прышэльца з іншай планеты, не ўласцівага нашаму краю. Пачынаецца супрацьпастаўленне, спроба разарваць жывую нітку сувязей. Траціцца многа сіл і энергіі на тэарэтызаванне, а жыццё тым часам імчыць наперад... Традыцыйнасць мыслення іншы раз даводзіць да таго, што мы

Я. Брыля, «Каласоў пад сярпом тваім» Ул. Караткевіча, лепшых твораў В. Быкава, І. Навуменкі, І. Пташнікава, Б. Сачанкі, Ул. Дамашэвіча, М. Стральцова, В. Адамчыка і інш. На чытача адукаванага, разумнага пачала смялей разлічваць паэзія. Яскравае сведчанне таму — паэтычныя кнігі «Пры святле маланак» П. Панчанкі, «Мой хлеб надзённы» і «Глыток вады» М. Танка, «Сасна і бяроза» А. Куляшова, «Служба святла» А. Русецкага, «Акно» П. Макаля, «Дзень» Я. Сіпакова, «Чалавечы знак» А. Вярцінскага. Філасафічнейшай стала паэзія П. Броўкі, А. Бачылы, А. Пысіна, А. Вялюгіна, К. Кірэенкі, А. Зарыцкага, С. Грахоўскага. Жанр філасофскай лірыкі штораз часцей заглядае ў кнігі вершаў і паэм Р. Барадуліна, А. Лойкі, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, Ю. Свіркі, К. Цвіркі, С. Гаўрусёва і некаторых іншых паэтаў. З'ява гэтая, што адпавядае заканамернасцям развіцця ўсёй савецкай паэзіі ўвогуле вельмі знамянальная.

НЯРЭДКА ў аглядах паэзіі можна прачытаць: бяда нашых паэтаў у тым, што яны, валодаючы майстэрствам, ведаюць, **як** пісаць, але не заўсёды маюць **пра што** пісаць. Дазволю сабе ўсумніцца ў гэтым. Не буду нагадваць тут слоў Бялінскага пра непадзельнасць паэтычнай формы і зместу, пра тое, што добры змест пры благой форме — гэта такая ж недарэчнасць, як добрая форма пры дрэнным змесце. На маю думку, віна некаторых беларускіх паэтаў як маладых, так і сярэдняга і старэйшага пакалення ў тым, што яны якраз не валодаюць неабходным паэтычным майстэрствам, не скарыстоўваюць у поўную моц такую ўласцівасць паэзіі, як змястоўнасць паэтычнай формы. Гэта зноў жа ідзе ад нежадання паглыбіць свае веды, на гэты раз — па тэорыі і гісторыі паэзіі, ад нехацення ўзяць лепшае з таго, што пакінулі ў спадчыну нашы вялікія продкі. Сапраўды, пачытайце хаця б «Полымя» і «Маладосць» за два-тры мінулыя гады, звярніце ўвагу на форму вершаў. У галіне рытмікі — гэта ў асноўным чатырох-або пяцістопны ямб ці іншыя традыцыйныя памеры з больш або менш расхістанай сілабатанічнай схемай, рыфмоўка — перакрыжаваная ці сумежная, рыфмы дакладныя ці бедныя, чатырохрадковая страфа — катрэн — амаль поўнасцю выцясніла ўсе астатнія. Калі і ёсць эксперыменты ў галіне формы — дык малаапраўданыя, няплённыя. Як быццам бы паэты ніколі не чулі пра дольнік ці тактавік, унутраныя і кальцавыя рыфмы, манарыфмы, белы, вольны і свабодны верш, санет, трыялет і г. д. І таму асабліва радасна, калі сустракаешся з паэтам, які не толькі ведае пра што сказаць, але і шукае, як лепш выказацца. Гэтак свежым павевам у паэзіі дыхнула ад верлібра Танка і Сіпакова, ад арыгінальных шаснаццацірадковых строф Аркадзя Куляшова, своеасаблівага беларускага гекзаметра Караткевіча, ад вянкоў санетаў Н. Гілевіча, Х. Жычкі, А. Сербантовіча. Радасна, што беларуская паэзія не толькі працягвае пачатую Максімам Багдановічам справу перасадкі на родны грунт лепшых форм сусветнай лірыкі, але і стараецца ўнесці ў яе ўзбагачэнне свой пастаянны ўклад. Можна не сумнявацца, што на гэтым шляху яе чакаюць таксама значныя дасягненні.

---

пачынаем штучную спрэчку: смачнейшы хлеб з дзяжы ці заводскай выпечкі, хаця калгаснік даўно ўжо з ахвотай карыстаецца паслугамі магазіна.

Адчуваецца пэўная аднабаковасць нашай крытыкі, якая тлумачыць, як правіла, удачы і пралікі таго ці іншага твора не зверкай з жыццём, а на аснове ўсяго толькі ўласнага вопыту: мне падабаецца, мне не падабаецца. Пазбаўлены ж эгаізму і асабістых выгад крытык — рабочы, калгаснік, інжынер, адным словам, сам чытач — думаецца, так і не стаў саўдзельнікам літаратурнага працэсу. Больш таго, самая масавая арганізацыя працоўных рэспублікі — Белсаўпроф — не толькі не цікавіцца, што пішуць пісьменнікі, але і не прымае ўдзелу ў абмеркаванні твораў, дасланых на конкурс, які аб'яўляе сумесна з Саюзам пісьменнікаў.

Незразумела і тое, чаму ў рэдкалегіях пры нашых часопісах няма ніводнага наватара вытворчасці, канструктара, вучонага, хоць бы з правам дарадчага голасу.

Рабочая тэма — важная, адказная тэма. І трэба ўсімі сродкамі, з усёй зацікаўленасцю падтрымліваць тых, хто ўзнімае і раскрывае яе. Не без агрэхаў вядома. Але з верай у поспех.

---

Мікола НАВІЦКІ

# ПЕРАКЛАД — СПРАВА ТВОРЧАЯ



НЕЛЬГА уявіць сабе сучаснае жыццё без перакладной літаратуры, гэтак сама, як нельга уявіць яго без электрычнасці, новых машын, без сродкаў камунікацыі. Калі б адзін народ развучыўся гаварыць з другім народам (а для зносін паміж людзьмі і служаць пераклады), чалавецтва нагадвала б будаўнікоў з легенды аб вавілонскім стоўпатварэнні.

Эдмон Кары — генеральны сакратар Міжнароднай федэрацыі перакладчыкаў і вядомы тэарэтык перакладу — пісаў: «Мы жывём у век перакладу. Сучасны свет нагадвае велізарную перакладчыцкую машыну, якая працуе з усё большай і большай хуткасцю. Кожны дзень з друкарскіх станкоў сыходзяць каля 60 перакладзеных кніг, адкрываюцца тры ці чатыры міжнародныя сустрэчы, выпускаюцца на экраны некалькі дубліраваных фільмаў, машыністкі друкуюць, а дыктары перадаюць незлічоную колькасць перакладзеных старонак; бясконцы лік дакументаў перакладаецца ў самым разнастайным выглядзе з адных моваў на другія».

Пытаннямі перакладу цяпер займаюцца не толькі літаратуразнаўцы і лінгвісты, не толькі гісторыкі культуры і псіхолагі, але і матэматыкі і інжынеры (у сувязі з машынным перакладам). Цікавасць да яго і да развіцця яго тэорыі ў нашай краіне не выпадковая. Яна — сведчанне высокай культуры савецкага народа, яго інтэрнацыяналізму.

У якім жа стане знаходзіцца практыка мастацкага перакладу ў нашай рэспубліцы? У аглядзе «Беларускі мастацкі пераклад і некаторыя яго праблемы», які старшыня секцыі мастацкага перакладу праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Язэп Семяжон зрабіў на Трэцяй Усесаюзнай нарадзе перакладчыкаў, адзначаны прыкметныя дасягненні ў галіне мастацкага перакладу ў Беларусі. Разам з тым аўтар агляду канстатуе і шэраг істотных недахопаў і цяжкасцей ў гэтым плане: «З'яўляючыся практычным увасабленнем ідэй інтэрнацыяналізму, пераклад, як і іншы від літаратуры, мае патрэбу ў перыядычным друкаваным органе. Без такога органа ён падобны на лектара без аўдыторыі, ці на аратара без трыбуны. Але такога друкаванага органа, разлічанага на перакладную літаратуру, у Беларусі пакуль што няма. Таму нават лепшыя ўзоры перакладаў мастацкіх твораў... залежваюцца ў партфелях рэдакцый беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў і штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Між іншым, пісьменніцкая арганізацыя Беларусі, якая налічвае ў сваіх радах больш за сорак перакладчыкаў, упаўне магла б забяспечыць такое выданне высокаякаснымі мастацкімі перакладамі».

Нельга не пагадзіцца з Язэпам Ігнатавічам у тым, што мы маем пільную патрэбу ў часопісе для перакладчыкаў, накшталт украінскіх «Всесвіта» і «Сузір'я» ці падобных часопісаў у іншых рэспубліках. Няма, вядома, сумнення, што ўвогуле ў нас шмат добрых перакладчыкаў. Але перакладчыкаў з заходніх моваў у нас вельмі мала. Вось і здараецца, што яшчэ зусім нядаўна літаральна ўсе беларускія часопісы і газеты былі запоўнены «перакладамі» з нямецкай мовы Куваева, які, правучыўшыся ў Мінскім інстытуце замежных моў не адзін і не два гады, так і не скончыў яго, бо не змог здаць практычнай граматыкі нямецкай мовы? Якія ж, з дазволу сказаць, «пераклады» ён мог рабіць? Акрамя скажэння зместу ў такіх «перакладах» ад арыгіналу нічога не заставалася.

Здараюцца і такія выпадкі, калі пераклады даручаюцца людзям выпадковым, непадрыхтаваным да такой працы, рамеснікам-саматужнікам. І да гэтага часу на паліцах кнігарняў і ў кіёсках ляжыць пераклад на беларускую мову рамана Бена Фёлькнера «Каханне Герды Хэльштэт», зроблены М. Зенюком і Я. Дубовікам, але зроблены на рэдкасць безадказна. Нават не шукаючы спецыяльна грубых памылак (сэнсавых, граматычных, лексічных, стылістычных і іншых), іх можна сустрэць літаральна на кожнай старонцы. Пры чытанні гэтай кнігі пабеларуску знаходзіш такія памылкі, якія маглі ўзнікнуць несумненна толькі пры перакладзе з рускага падрадкоўніка, перакладзе, зробленага машыністкай з руска-беларускім слоўнікам. Прыкра бачыць такія, напрыклад, звароты, як «усялякая ўсячына», «яна ганарліва ўсміхнулася», «панавала ажыўленне», «і выгляду не падала» і мноства іншых. Перакладчыкі ведаюць нямецкую мову, але ім не хапала адной «дробязі»: ведання беларускай мовы, і гэта акалічнасць не магла не адбіцца на якасці перакладу.

Гэта, на жаль, не адзіны выпадак выхаду ў свет сырых, з большага прычэсаных рэдактарамі, нецікавых, кепскіх перакладаў.

Галоўная прычына таго, што ў нас мала добрых перакладаў не толькі ў тым, што выдавецтва «Беларусь» удзяляе гэтаму боку ўзбагачэння нашай культуры мала ўвагі, а яшчэ і ў тым, што гэтыя пераклады няма каму рабіць. Добрых перакладчыкаў з заходніх моваў у нас па пальцах пералічыш. Гэта Я. Семяжон — з англійскай, нямецкай, французскай, Ю. Гаўрук — з англійскай і нямецкай, Ул. Дубоўка — з англійскай, В. Сёмуха — з нямецкай, А. Зарыцкі — з нямецкай, А. Шаўня — з італьянскай. І ўсё.

Такім чынам, патрэба ў падрыхтоўцы нацыянальных кадраў перакладчыкаў існуе, і вельмі пільная. На пытанне «Дзе?» адказваюць у сваіх артыкулах у «Літаратуры і мастацтве» Язэп Семяжон і Ніл Гілевіч, якія пісалі: «На шматлікіх факультэтах Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў дзеці Беларусі вось ужо дваццаць год... авалодваюць... замежнымі мовамі... Але ў гэтым інстытуце... у вучэбных праграмах не значыцца і не выкладаецца хаця б курсоўна такая навука як асновы тэорыі перакладу». (Язэп Семяжон. Пераклад — гэта не на плячо з пляча. «Літаратура і мастацтва», 10. IV-70 г.); «Тое, што наш інстытут замежных моў слаба рыхтуе нацыянальныя кадры перакладчыкаў — гэта недаравальна. Не выкарыстаць такую магчымасць — значыць праявіць вялікае нядбайства да справы развіцця нацыянальнай культуры». (Ніл Гілевіч. У чаканні рашучага павароту. «Літаратура і мастацтва», 19.VI-70 г.).

Вельмі трапна сказалі гэтыя вядучыя беларускія перакладчыкі пра наш інстытут. Іх словы я зачытаў на адным савеце перакладчыцкага факультэта, дзе стаяла пытанне аб стане выкладання беларускай мовы на перакладчыцкім факультэце, аб рабоце спецсемінара «Праблемы мастацкага перакладу з нямецкай мовы на беларускую». Я паведаміў савету пра тое, што маскоўская нарада перакладчыкаў у сваім рашэнні заклікала спецыяльныя ВНУ краіны стварыць групы па падрыхтоўцы перакладчыкаў мастацкай літаратуры на мовы народаў СССР і замежныя мовы, расказаў пра паспяховы вопыт такой работы ў Кіеўскім універсітэце і ўнёс прапанову стварыць на перакладчыцкім факультэце групы па падрыхтоўцы перакладчыкаў мастацкіх твораў з заходніх моў на беларускую і з беларускай мовы на замежныя. Але цяперашняе кіраўніцтва факультэта рэагавала на гэтую прапанову адмоўна, спаслаўшыся, што ў інстытуце няма для гэтага адпаведных кадраў выкладчыкаў. Але ж няма сумнення ў тым, што і Язэп Семяжон, і Ніл Гілевіч, і Юрка Гаўрук, і Аляксей Зарыцкі не адмовіліся б аказаць нам у гэтым дапамогу, як не адмовіў нам у дапамозе Васіль Сёмуха, які на грамадскіх пачатках (на жаль) вельмі многа робіць для спецсемінара «Праблемы мастацкага перакладу з нямецкай мовы на беларускую». Ён працуе на перакладчыцкім факультэце ўжо тры гады. Ёсць у нас і свае кадры, як, напрыклад, дацэнты А. Шыдлоўскі і С. Дорскі, якія, акрамя англійскай мовы, добра ведаюць і беларускую і часта перакладаюць самі. Савет факультэта ўхваліў работу спецсемінара, прапанаваўшы арганізаваць падобныя спецсемінары і з іншых моў, але справа далей рэкамендацый, на жаль, не рушыла.

Мэта спецсемінара — вучыць яго ўдзельнікаў перакладаць нямецкую мастацкую прозу і паэзію на родную мову, выхоўваць у студэнтаў любоў да роднага слова, літаратуры, культуры. Праграма складаецца з трох аспектаў: некаторыя пытанні тэорыі перакладу (у плане агульнага азнаямлення), супастаўны аналіз перакладаў з нямецкай мовы на беларускую (пераклады Я. Семяжона, Ю. Гаўрука, В. Сёмухі, А. Зарыцкага і іншых), практычныя пераклады студэнтаў. Вось некаторыя тэмы, якія мы прапануем студэнтам на семінары: «Аб прыгажосці мовы. Мастацкая мова Я. Брыля. Брыль-перакладчык»; «Супастаўны аналіз перакладу балады Ф. Шылера «Рукавічка» (на рускую мову — Жукоўскага, на ўкраінскую — Лукаша, на беларускую — Гаўрука)»; «Проза беларускіх пісьменнікаў (Б. Сачанка, І. Пташнікаў, М. Стральцоў і інш.)»; «Аб культуры роднай мовы (на матэрыяле прац Ф. Янкоўскага)»; «Абмеркаванне новых твораў сучаснай беларускай літаратуры» і іншыя, звязаныя з галоўнай задачай семінара.

Непасрэдным вынікам удзелу студэнтаў у рабоце семінара з'яўляецца напісанне гэтымі студэнтамі курсавых і дыпломных прац па праблемах нямецка-беларускіх моўных паралеляў. Як правіла, такія работы абараняюцца на «выдатна».

У нас ужо ёсць і свае практычныя вынікі: былыя ўдзельнікі семінара А. Клімчык і А. Бубен і цяперашнія Д. Мароз, М. Шымчык, Ул. Дамарад, Ул. Струміла нярэдка змяшчаюць свае пераклады ў беларускіх газетах і часопісах.

У пастанове Трэцяй Усесаюзнай нарады перакладчыкаў запісана: «Шырэй выдаваць спецыялізаваныя слоўнікі і іншыя дапаможнікі, якія аблегчылі б працу перакладчыка, а таксама вучэбныя дапаможнікі па спадарожных дысцыплінах для студэнтаў». У нас у гэтым плане ўжо зроблены пачатак: аўтар гэтых радкоў працуе над дапаможнікам для студэнтаў-перакладчыкаў «Граматычныя праблемы перакладу з нямецкай мовы на беларускую».

Адным словам, нейкая работа ў нас вядзецца. Але гэта, вядома, кропля ў моры. Справу гэтую трэба ўзаконіць. Праблему падрыхтоўкі кадраў перакладчыкаў трэба вырашаць па-дзяржаўнаму, трэба, каб беларуская пісьменніцкая арганізацыя ўдзяліла ёй больш увагі. Саюз пісьменнікаў БССР і бюро секцыі перакладу пры СП БССР павінны памагчы ўжо ў бліжэйшы час адкрыць на перакладчыцкім факультэце спецыяльнае аддзяленне мастацкага перакладу з заходніх моў на беларускую і, што ў шмат разоў важней, з беларускай мовы на англійскую, нямецкую, французскую, іспанскую.

Няма сумнення ў тым, што сярод студэнтаў інстытута ёсць таленавітая моладзь, якая шчыра хоча ўдзельнічаць у развіцці нацыянальнай літаратуры і культуры. У нас можна і трэба рыхтаваць кадры перакладчыкаў беларускай літаратуры на замежныя мовы. Гэта, бадай галоўнае, пра што шчыра хацелася сказаць перад з'ездам беларускіх пісьменнікаў. Хто будзе займацца прапагандай нашай цудоўнай роднай літаратуры, вывядзеннем яе «ў людзі», як не мы самі. З усяго беларускага, што перакладзена на замежныя мовы, не набярэцца больш дзесятка твораў. І доўга нам давядзецца яшчэ чакаць, пакуль нехта за мяжой надумаецца перакладаць на свае мовы нашы раманы і аповесці, нашы апавяданні, паэмы і вершы. Нам трэба ўзяцца за гэта самім. Такія магчымасці ў нас ёсць. Гэтую справу трэба даручыць Мінскаму інстытуту замежных моў пад кіраўніцтвам і з дапамогай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У сувязі з узнятай праблемай падрыхтоўкі перакладчыкаў беларускай літаратуры на замежныя мовы нельга не сказаць пра некаторыя пераклады беларускіх твораў, якія выйшлі за мяжой, напрыклад, пра пераклад на нямецкую мову рамана Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды», зроблены Гансам-Еахімам Грымам. Вельмі прыемна, што наш раман выйшаў у ГДР.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКІ ПАДАРУНАК

Красавіцкая кніжка часопіса «Полымя», што выходзіць напярэдадні VI з'езда пісьменнікаў Беларусі,—добры падарунак чытачам. Адкрывае яе вялікая падборка новых вершаў народнага паэта рэспублікі Максіма Танка.

Гаварыць пра новыя вершы Максіма Танка—значыць гаварыць пра чароўную сілу паэзіі, пра яе здольнасць даследаваць і асэнсоўваць самыя патаемныя зрухі ў чалавечай душы і самыя складаныя працэсы сучаснасці. Іх не перакажаш, гэтыя вершы, іх гармонію цяжка праверыць «алгебрай» структурна-мастацкага аналізу. Гаварыць пра новыя вершы Максіма Танка—значыць гаварыць пра шырокі творчы дыяпазон паэта, творчасць якога грунтуецца на лепшых традыцыях не толькі літаратуры нацыянальнай.

Паэт па-майстэрску валодае паэтычнай формай, насычае яе хвалюючым зместам. Часам нават цяжка сказаць што гэта: верлібр, белы верш? Ды і не думаецца пра гэта, калі чытаеш, напрыклад, такія радкі:

**І хоць не раз каты вырывалі**
**Цэлыя старонкі**
**Гэтай гісторыі роду майго,**
**Перакрэслівалі бізунамі, штыкамі —**
**Яны, быццам кроў праз бінты,**
**І сёння праступаюць праз барозны**
**зямлі,**
**Праз мае песні.**
(«Відаць ніводная з каралеўскіх дынастый»).

Апошнім часам у нас шмат гавораць пра ўзаемаўплыў і ўзаемаўзбагачэнне літаратур. За гэтай гаворкай пільна сочаць паэты, асабліва паэты маладыя. Як адлюстраваць наш імклівa-вірлівы час, рэха ад грукату якога чуваць ужо, мабыць, у наступных стагоддзях, а на зямлі ўсё застаецца яшчэ столькі неразблытаных праблем? Літаратура — на пярэднім краі даследавання гэтых праблем. І калі яна не ідзе навобмацак, калі яе пошукі грунтуюцца на лепшых дасягненнях і здабытках мінулага, калі яна трывала звязана з клопатам і жыццём народа,—толькі ў такім разе літаратура выконвае сваю адказную і вялікую місію.

Творчасць Максіма Танка шырока рассоўвае межы «традыцыйнага» ў нашай літаратуры. Але ўзбагачаючы паэзію новай формай і зместам, рытміка-інтанацыйнай афарбоўкай, новымі, нечаканымі вобразамі і прыёмамі, глыбокім сінтэзам навакольнай рэчаіснасці, паэт застаецца, па-сутнасці, глыбока нацыянальным.

**З дрэвам,**
**Што на скрыжаванні дарог,**
**Мы некалі разам выйшлі ў свет.**
**Толькі яно спынілася ў роздуме—**
**У які бок падацца.**
**Не знаю:**
**Сёння сустрэўшыся,**
**Ці пазнаем адзін другога.**

Вось і ўвесь верш. Пра што ён? Думай сам, дарагі чытач. Ніхто сёння не сумняваецца ў тваёй адукаванасці, начытанасці, багатай фантазіі, добрым мастацкім гусце. На цябе сёння працуюць радыё і тэлебачанне, тэатры і кіно, на цябе нясецца няспынная плынь самай навейшай і дасканалай інфармацыі з усіх канцоў свету.

Можа ўбачыш у форме гэтага верша элементы танку, калі ты знаёмы з японскай паэзіяй, а прачытаўшы — раптам уявіш дрэва, якое некалі пасадзіў у маленстве, і захочацца табе вярнуцца туды, каб прыпасці да зашчурпацелага камля і прыгадаць, ацяжэламу ад гадоў, турбот і хваляванняў, той светла-беззваротны, благаславёны час... А можа гэты верш наогул пра людзей, іх шляхі-дарогі, іх лёсы... Думай сам, дарагі чытач.

Я ўжо не гавару пра іншыя вершы паэта, такія, як «Форма зямлі», «На шалях азёр», «Перапіс насельніцтва», «Хатынь», «Авідзію» і інш.

Увабраўшы ў сябе багатыя здабыткі мінулага, паэзія Максіма Танка на крылах сучаснасці скіравана ў будучае. Яна—цудоўны ўзор і вялікая школа майстэрства для маладых пісьменнікаў.

У чацвёртым нумары «Полымя» друкуецца таксама працяг паэмы Аркадзя Куляшова «Далёка да акіяна» і працяг рамана Алеся Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік». Як ужо адзначалася, новая паэма народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова—значная падзея ў літаратурным жыцці рэспублікі. Новы раман Алеся Асіпенкі прысвечан сучаснаму жыццю горада і вёскі. Пра гэтыя творы яшчэ адбудзецца гаворка на старонках штотыднёвіка, калі яны будуць надрукаваны цалкам.

Іван Навуменка выступае з трыма апавяданнямі: «Мяшок белага наліву», «Мост» і «У Макаў, на млын». Першыя два прысвечаны тэме вайны. Гэта, хутчэй за ўсё, кароткія навелы, у аснове якіх—адзін жыццёвы выпадак, адно здарэнне, вакол іх і распачынаецца дзеянне. Апошняе апавяданне, аўтар даў яму падзагаловак «з мінулага», уводзіць нас у складаны і супярэчлівы час беларускай вёскі перыяду калектывізацыі. Апавяданні напісаны рукой сталага майстра, ашчаднага ў выяўленчых сродках, у адборы слоўнага матэрыялу. Асабліва вылучаецца ў гэтых адносінах апавяданне «У Макаў, на млын».

Вершы Міхася Калачынскага «Помнік веку» і «Немінучасць»—новае пацвярджэнне таго, што паэт у сваёй творчасці аддае перавагу вершам публіцыстычна-завостраным, грамадзянска-актыўным. Адзначым, што ён паспяхова распрацоўвае гэту тэму, такую блізкую кожнаму творцу і такую складаную ў сэнсе яе паэтычнага вырашэння.

«Былі ў мяне мядзведзі» — так назваў сваё апавяданне Уладзімір Караткевіч.

Ужо сама назва гаворыць пра што яно. Чалавек і прырода... Гэта праблема часцей і часцей непакоіць наша грамадства. Сур'ёзнае, навуковае вывучэнне расліннага і жывёльнага свету зараз прымушае людзей перагледзець тыя пункты гледжання на прыроду, якія дагэтуль здаваліся непарушнымі. Запаволена, няспешна ўводзіць чытача пісьменнік у таямнічы свет прыроды, дзе свая журба і свае радасці, сутыкненні і трагедыі. Аўтар любіць прыроду і яе насельнікаў, піша шчыра. Апавяданне чытаецца з цікавасцю, выклікае шмат думак.

Пад рубрыкай «Новыя пераклады» друкуюцца вершы вядомага ўкраінскага паэта, даўняга сябра беларускай літаратуры—Міколы Нагнібяды ў перакладах Генадзя Кляўко, Міхася Калачынскага, Анатоля Вялюгіна і Язэпа Семяжона, а таксама апавяданне нямецкага пісьменніка Гюнтэра дэ Бройна «Рэната» ў перакладзе Сямёна Дорскага.

Аляксей Карпюк друкуе нарыс «Пе-

# ХАРАКТАР ВЫДАННЯ ВЫМАГАЕ

Часопіс «Беларусь» па сваім характары — выданне масавае. Гэта вымагае ад рэдакцыі асаблівай патрабавальнасці да ідэйна-мастацкай вартасці твораў, што друкуюцца на яго старонках, больш прынцыповага іх адбору. На жаль, красавіцкі нумар часопіса выглядае сярод іншых не лепшым.

Вось паэзія. Вершы Святланы Лобач, Кастуся Шавеля і Уладзіміра Скарынкіна — кволыя лірычныя замалёўкі, пазбаўленыя значнасці думкі і свежасці пачуцця. Не кранае і ўрывак з паэмы Хведара Чэрні «Мы — ліцейшчыкі». У ім не адчуваецца асабістасці перажыванняў лірычнага героя, галоўная думка далёка не новая (гартуецца сталь — гартуецца чалавек). Засмучае і неапрацаванасць, проста-такі неахайнасць паэтычнага радка. Вось, напрыклад, пра **што** і **як** думае лірычны герой, гледзячы на апокі, якія паўзуць па канвееры:

Яшчэ не скора ў
шкілет жалеза
Душу жывую людзі
удыхнуць.
Яшчэ іх будуць
і скабліць і рэзаць,
Яшчэ іх можна
ў пераплаў вярнуць (?).
І палажыць канец
часовай дружбе,
Якая немалы каштуе
грош (?)
І ўсё-такі яны ўжо
на службе,
То хай яе саслужаць
ненайгорш.

Добрае ўражанне пакідаюць вершы Рыгора Барадуліна, а таксама Васіля Жуковіча. «Радзіма», «Чую званы Хатыні» і «Нарачанская конніца», хоць і не вылучаюцца асаблівай значнасцю і глыбінёй думкі, гучаць свежа, шчыра, задушэўна.

Не дужа пашанцавала ў нумары і прозе. Праўда, апавяданні «Звычайная ноч» Яўгена Васілёнка і «Чужы» Міколы Ваданосава чытаюцца з цікавасцю. Аднак, на жаль, цікавасць гэтая выклікаецца толькі тым, што ў аснову апавяданняў пакладзены выключныя выпадкі.

У творы Я. Васілёнка гаворка ідзе пра касірку чыгуначнай сталовай Валю; дзяўчына страціла нагу, ратуючы з-пад цягніка жанчыну; гэтая жанчына — цётка Сцепаніда—у гады вайны зведала жахі акупацыі, выцерпела ў гестапа нечалавечыя катаванні, ад чаго страціла слых і мову; у той вечар, калі з Валяй здарылася няшчасце, цётка Сцепаніда несла вячэру свайму брату-чыгуначніку і не чула пранізлівых гудкоў паравоза. У апавяданні М. Ваданосава ўдава-настаўніца, да якой заляцаецца загадчык клуба, раптам пазнае ў сваім кавалеры былога здрадніка, забойцу яе дзеда.

Спробы падняцца над гэтымі выключнымі выпадкамі (у жыцці яны, вядома, маглі быць), стварыць запамінальныя чалавечыя характары, напоўніць творы пэўнымі думкамі не далі належнага плёну. Касірка Валя з такім жа поспехам магла б працаваць у якой-небудзь іншай сталоўцы альбо ў магазіне —чыгуначны антураж застаецца ў апавяданні толькі антуражам. Тое ж і ў М. Ваданосава: яго ўдава-настаўніца недастаткова надзелена жывымі чалавечымі рысамі.

Дарэчы, апавяданне Я. Васілёнка празмерна расцягнута, яно займае шмат месца і таму не дужа пасуе часопісу «Беларусь»—выданню «тонкаму».

З публіцыстычных матэрыялаў нумара мы вылучылі б артыкул «Ідэалагічныя дыверсіі сіяністаў» І. Ражкова і У. Южына (змястоўны, насычаны «мясцовымі» фактамі), успаміны пра сустрэчы з Уладзімірам Ільічом Леніным старога камуніста В. Красноўскага (шчырыя, непасрэдныя), артыкул «Аднаўленне добрай традыцыі» В. Івіна (пра пошукі тэатрам імя Янкі Купалы арыгінальнага рэпертуару) і «Другі том БелСЭ» І. Цішчанкі.

Змястоўнай атрымалася 23-я старонка часопіса. Тут змешчаны цікавыя допісы В. Іпатавай—пра фальклорную групу Бярозаўскага Палаца культуры, В. Бархатавай—пра брэсцкага кампазітара А. Шутава і І. Лешанюка — пра самадзейнага мастака з саўгаса «Чарнэлі» Іўеўскага раёна М. Шчалканогава.

Удалы ўвогуле крытыка-бібліяграфічны раздзел. Рэцэнзіі Р. Бярозкіна, Н. Аранскага, Г. Шыловіча, Е. Івановіча і А. Шаўні, нягледзячы на сваю сціс[л]асць, даволі пераканаўчыя.

Варта таксама адзначыць такія куткі, як «Пагаворым пра паводзіны», «З народных рэцэптаў», «У сшытак кулінарам», «Каляндар садавода і агародніка», «Парады ўрача», нататкі «Па камандзе паляўнічага» Д. Слаўковіча і «Чынгіз — дзіця ваўкоў» Ф. Рэўзіна, — усё гэта ў стылі і характары часопіса, разлічанага на масавага чытача.

Чаго найбольш нестае нумару, дык гэта сапраўднай публіцыстыкі, у першую чаргу такога яе жанру, як нарыс. Адсутнасць нарыса ніяк не

# ПЕРАКЛАД—СПРАВА ТВОРЧАЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

Гэта, так сказаць, наш гонар. Але глянем на пераклад зблізку. Ці прыемна будзе Янку Брылю даведацца, што «мэндлікі» з яго кнігі на старонках нямецкага перакладу ператвараюцца ў «міндальныя дрэвы», «ушысткія свентыя»—у «вашывых сьятых», «вонкавы» — у «шчыры», «прышыбееўскі голас» — у «прышыблены голас», «разгалістыя дрэвы» — у «голыя дрэвы», а «тры чырвонцы» — у «тры рублі».

Усё гэта, вядома, прыкра, але больш істотна іншае: пры ўсёй дакладнасці перадачы зместу раман у нямецкім перакладзе страціў самабытную свежасць, сакавітасць і меладычнасць брылёўскай прозы, стаўшы проста «яшчэ адным раманам пра вайну» ў шэрагу іншых. Больш таго, у нямецкім перакладзе ён набыў гучанне, далёкае ад аўтарскай задумы. Вось як характарызуе раман Грым: «Але аўтара перш за ўсё цікавіць паказ унутранага развіцця героя, яго шляху ад талстоўца да савецкага партызана. Гэтую паэтычна чароўную і псіхалагічна захапляльную гісторыю душы Брыль развівае да маштабаў **абагульняючай** карціны беларускага народа ў трагічныя гады вайны». Бачыце, які вывад! Але ён ёсць у прадмове да кнігі і яўна вынікае з перакладу, такога «дакладнага» і «адэкватнага», затое надзвычай прылізанага, падпраўленага і затладжанага да непазнавальнасці, але не пазбаўленага знешніх атрытубаў падабенства да арыгінала. Грым часта «выпраўляе» «няправільнасці» ўжытых Брылём германізмаў са стылістычнай нагрузкай («фрава», «арбайцан», «хайэтлэр»), шматлікія паланізмы і русізмы даводзіць іх да патрэбнай кандыцыі, не вельмі дбаючы пра тое, што «дзябёлая фрава» — гэта не тое самае, што «wohlbeleibte Frau» і г. д. Калі фраза «што гэта швабам не Польшчу асядлаць з усіх бакоў» перакладаецца «...die sich von den Schwaben, wie die Gefangenen spottisch nannten, nicht so leicht unterkriegen lassen wie der polnische Staat», дык гэта прыклад згладжвання вобраза, сціранне аўтарскага сарказму і нейтралізацыі выказвання. І гэтым прыёмам перакладчык карыстаецца ці не занадта часта. У выніку з рамана знікае брылёўская іронія, пакеплівасць, саступаючы месца голай дыдактыцы.

Вельмі крыўдна бачыць таксама і тое, што пераклад рамана зроблен з рускага перакладу (паўторны пераклад), хаця ў нямецкім выданні і напісана «Перакладзена з беларускай мовы». Гэта лёгка заключыць нават па ўласных імёнах, якія ў перакладзе гучаць зусім не па-беларуску: «Олечка», «Костя Вербицкий», «Владик» (Уладзік), «Лёнька» (Лявон), «Жэня Хвесткова» (Хвеськава Жэня), «Николай (Мікола) і іншыя.

Тут можна сказаць толькі адно: нічога б гэтага не здарылася, каб перакладчык ведаў не толькі нямецкую мову, але і беларускую, ды і не толькі мову, але каб ён ведаў беларусаў. Лепш за ўсё з перакладам справіўся б, вядома, перакладчык-беларус, які добра ведае нямецкую мову.

Нельга спадзявацца на «здрадлівы» падрадкоўнік. Не сакрэт, што падрадкоўны пераклад часта, па сутнасці, нагадвае нешта накшталт звычайнай літаратурнай апрацоўкі расказаў бывалых людзей. Цяжка прыдумаць больш трапнае азначэнне, дадзенае падрадкоўніку выдатным перакладчыкам беларускай паэзіі Якавам Хялемскім: «Падрадкоўнік — гэта забітая птушка, якую трэба зноў прымусіць лётаць». Будзем спадзявацца, што нягледзячы на ўсё яшчэ шматлікіх абаронцаў падрадкоўніка, ён усё ж зжыве сябе. А калі ўжо і карыстацца падрадкоўнікам (з-за адсутнасці спецыялістаў-перакладчыкаў па той ці іншай мове), то трэба не баяцца сказаць пра гэта, бо чытач жа ўсё роўна зразумее, што да чаго. Хто, напрыклад, з беларускіх літаратараў ведае в'етнамскую або венгерскую мову, але ж агаворак, што пераклады робяцца з рускага падрадкоўніка, часта не робяць.

У рашэнні Трэцяй Усесаюзнай нарады перакладчыкаў запісана: «Пры пісьменніцкіх арганізацыях стварыць пастаянна-дзеючыя семінары перакладчыкаў». Прапанова цудоўная. Хацелася б, каб і наш Саюз пісьменнікаў яе ўлічыў.

У цікавай прамове на Трэцяй Усесаюзнай нарадзе перакладчыкаў Язэп Семяжон назваў майстроў мастацкага перакладу «перадатчыкамі» добрага слова добрым людзям пры ўзаемаабмене лепшымі здабыткамі культуры паміж народамі, яго «пасламі» і «паўнамоцнымі прадстаўнікамі», якія ўзводзяць тыя цудоўныя масты, што збліжаюць культуры народаў, якія знаходзяцца на розных адлегласцях і берагах». Было б вельмі добра, каб і нашы масцітыя перакладчыкі і Саюз пісьменнікаў паклапаціліся аб падрыхтоўцы такіх «перадатчыкаў добрага слова» ў нашай рэспубліцы.

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ШЛЯХАМІ ВОСТРАЙ БАРАЦЬБЫ

ПРАЛЕТАРСКАЙ крытыцы 20-х гадоў належыць важнае месца ў прапагандзе камуністычных ідэй, у барацьбе за прынцыпы сацыялістычнага рэалізму, распаўсюджванні матэрыялістычнай эстэтыкі. У выключна складаных сацыяльных умовах яна з гонарам змагалася супраць розных антымарксісцкіх груп і груповак «паэзіі» і «прозы», якія выносілі на літаратурны Парнас ілжэнавуковыя дэкларацыі і маніфесты.

Навуковыя і тэарэтычныя канцэпцыі беларускай крытыкі першых гадоў Савецкай улады заставаліся, аднак, не вывучанымі і не абагульненымі. Таму актуальнасць кнігі С. Карабана «Нарысы па гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў», якая выйшла нядаўна ў выдавецтве БДУ імя У. І. Леніна, не патрабуе, як кажуць, асаблівых каментарыяў.

Прасочваючы тэарэтычна-метадалагічныя, гнасеалагічныя карэнні эклектычна-фармалісцкіх лозунгаў і маніфестаў сацыялагічных крытыкаў, на аснове якіх яны шпорылі Пегаса, аналізуючы прынцыпы марксісцка-ленінскіх крытыкаў, С. Карабану ўдалося дастаткова поўна і ярка ўзнавіць напружаны момант нялёгкай барацьбы камуністычнай крытікі за сацыялістычны рэалізм у беларускай савецкай літаратуры. На багатым фактычным матэрыяле, пачэрпнутым з перыядычнага друку і архіўных крыніц, аўтар, хоць і коратка, але доказна паказвае гістарычную заканамернасць гэтай вострай ідэйнай барацьбы.

На канкрэтных прыкладах ён паказвае ўсю нежыццёвасць псеўдарэвалюцыйнай тэорыі крытыкаў-фальсіфікатараў, правакацыйны характар «тэарэтычнай» базы Кундзіша, Бэндэ, Купцэвіча і іншых, іх цеснае ўзаемадзеянне ў адзінай шкоднай вульгарызатарскай плыні. Аўтар «Нарысаў» падвяргае крытыцы памылковую метадалогію фармалістаў і вульгарных сацыёлагаў, якія, як вядома, у сваіх трактоўках мастацкіх твораў дапускалі разрыў паміж зместам і формай, няправільна ўяўлялі залежнасць паміж светапоглядам пісьменніка і яго творчым метадам, атаясамлівалі палітычныя погляды аўтара з поглядамі яго персанажаў і г. д. З цікавасцю чытаюцца старонкі, дзе С. Карабан выкрывае «тэорыі» аб тым, што выхадзец, скажам, з сялянскага асяроддзя не можа пісаць аб жыцці і настроях рабочых або, што «ніколі не адбудзецца змычкі беларускай сялянскай літаратуры з пралетарскімі культурнымі імкненнямі».

Аналіз сабранага матэрыялу даў магчымасць вучонаму зрабіць вывад, з якім нельга не пагадзіцца: фармалісты і вульгарныя сацыёлагі — дзве крайнасці, але іх памылкі зводзіліся да аднаго — да неразумення мастацтва як адзінства формы і зместу.

Зусім апраўдана і выдзяленне С. Карабанам надзвычай складанай праблемы — творчасць дарэвалюцыйных пісьменнікаў у ацэнцы крытыкі 20—30-х гадоў — у асобны раздзел. Як вядома, тэорыя «адзінага культурнага патоку», да якой беларуская крытыка і літаратуразнаўства вярталіся двойчы (у 20-я і 40-я гг.), выклікала розныя думкі ў адносінах да літаратурнай спадчыны мінулага.

Шмат хто (і правільна) лічыў, што да спадчыны мінулага трэба адносіцца па-гаспадарску, ашчадна. На думку ж вульгарных сацыёлагаў, творы Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, М. Багдановіча, дарэвалюцыйная творчасць Я. Купалы, Зм. Бядулі, Я. Коласа ў свой час адыгралі пэўную ролю, а ў нашы дні яны нібыта ўстарэлі і сталі нават «рэакцыйнымі».

Аналізуючы тэарэтычна-метадалагічны характар гэтых тэорый, даследчык паказвае крокі некаторых крытыкаў да правільнай ацэнкі літаратурнай спадчыны мінулага, адзначаючы пры гэтым, што артыкулы Зм. Бядулі, М. Ларчанкі, Я. Шарахоўскага сведчылі аб пачатку новага падыходу да разгляду творчасці таленавітага паэта Ф. Багушэвіча. Гэтыя крытыкі, як слушна заўважае вучоны, разумелі творчасць паэта ў непарыўнай сувязі з вызваленчым рухам беларускага народа, у адзінстве зместу і формы, бачылі ў ёй нацыянальную самабытнасць.

Праўда, даследаванню часам бракуе грунтоўнасці ў асвятленні крытычнай спадчыны нашых выдатных пісьменнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, Зм. Бядулі і іншых.

Так, напрыклад, толькі Кузьма Чорны з 1928 па 1934 гады напісаў каля 80 артыкулаў па праблемах развіцця беларускай савецкай прозы. І мне думаецца, што больш глыбокае асэнсаванне аўтарам гэтых момантаў у творчасці такіх пісьменнікаў дазволіла б яшчэ паўней і шматгранней перадаць карціну вострай ідэйнай барацьбы ў мастацтве.

Выразна пададзены ў кнізе пераломны этап—выздараўленне «хворай» крытыкі пасля гістарычнай пастановы ЦК РКП(б) «Аб палітыцы партыі ў галіне мастацкай літаратуры». Аўтар слушна заўважае, што шэраг крытыкаў, літаратурных арганізацый пасля пастановы партыі перабудавалі сваю работу, бліжэй сталі да вырашэння надзённых задач сацыялістычнага будаўніцтва, парвалі ідэйныя сувязі з буржуазнымі вульгарызатарамі. Марксісцкая крытыка ставіла і распрацоўвала шэраг тэарэтычных праблем: задачы літаратуры ў грамадскім жыцці, станоўчы герой, традыцыі і наватарства, адзінства зместу і формы, настойліва змагалася за тэматычнае жанравае багацце літаратуры, а традыцыйная тэма вёскі ў сувязі з сацыялістычнымі пераўтварэннямі ў сельскай гаспадарцы атрымала новую распрацоўку.

Багацце і разнастайнасць фактычнага матэрыялу, аналіз якога, безумоўна, вымагаў ад аўтара пільнасці, правільных тэарэтычных вывадаў і фармулёвак, іншы раз збіваў даследчыка на недакладнасці. Так, напрыклад, газета «Беларуская вёска», першы нумар якой выйшаў у 1923 годзе і апошні—у 1928, у кнізе датуецца 1921—1931 г.г. Далей—у 1932 годзе выйшла не газета «Беларусь калгасная», як зазначае аўтар, а часопіс пад гэтай назвай. Назіраецца і некаторая невыразнасць у выказванні думак. Напрыклад: «Я. Купала, будучы беспартыйным пісьменнікам, стварыў...» Беспартыйных пісьменнікаў, як вядома, увогуле няма.

І ўсё ж «Нарысы» — добры здабытак нашай беларускай культуры. Першая прасека да вывучэння гісторыі беларускай савецкай крытыкі зроблена. Думаецца, што яе працягвае як сам аўтар, так і іншыя даследчыкі.

**І. САЧАНКА,**
кандыдат філалагічных навук.

С. І. Карабан. «Нарысы па гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў». Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск. 1971.

# ПРАЎДАЙ ЖЫЦЦЯ ПАЗНАЧАНА

ЛЁС пакалення, якое вайну сустрэла за школьнай партай ці толькі, толькі выходзіла на жыццёвы шлях, — у цэнтры ўвагі аповесці Івана Грамовіча «Далі сабе слова».

Праз шматлікія выпрабаванні праводзіць пісьменнік сваіх герояў, праз нягоды і радасці. Цяжкую ношку ўсклалі на іх плечы час і падзеі. У тых складаных сітуацыях і фармаваліся чалавечыя характары, выяўлялася сапраўдная сутнасць людзей.

Школьніцу Ганю Невяроўскую ваенная сцяжына прывяла ў стан лясных салдат, у атрад народных мсціўцаў. Там настаўнікамі дзяўчыны сталі старэйшыя таварышы па зброі, якія выкладалі ёй суровую навуку барацьбы з гітлераўскімі нелюдзямі. Ганя аказалася здатнай вучаніцай — у яе баявым дзённіку з'явіўся запіс аб спушчаным пад адхон варожым эшалоне...

І вось адна з чарговых партызанскіх аперацый для Невяроўскай і яе сяброў сталася апошняй — воіны Савецкай Арміі і народныя мсціўцы сустрэліся, фронт пакаціўся на Захад, да фашысцкай бярлогі. У часе сустрэчы адбылося знаёмства падрыўніцы Гані з камандзірам танкавага экіпажа Максімам Вішнёвым. Гэтае знаёмства фактычна з'яўляецца завязкай аповесці, адсюль будуць разгаліноўвацца яе сюжэтныя лініі, пачнецца стварэнне, так сказаць, мастацкага стрыжня твора.

Вобраз Гані Невяроўскай — самы выразны ў аповесці «Далі сабе слова», гэта несумненная ўдача пісьменніка. Аўтар дае сваёй гераіні магчымасць дзейнічаць у абставінах і акалічнасцях, у якіх выяўляюцца галоўныя якасці яе характару. Ганя з таго часу, як здала свой аўтамат і атрымала пашпарт, не робіць ніякіх подзвігаў, ніякіх учынкаў, што звярнулі б на сябе ўвагу. Але нас ужо зацікавіла гэтая дзяўчына. Учарашняя партызанка спынілася ў толькі што вызваленым, амаль дашчэнту зруйнаваным вайной Мінску і, не маючы хоць якой-небудзь спецыяльнасці, пачала свае працоўныя будні. Так было ў той час з многімі і многімі тысячамі маладых людзей. Пісьменнік праўдзіва, пераканальна апавядае пра надзвычайныя цяжкасці і нягоды, якія ім давялося зведаць з першых жа дзён выгнання захопнікаў са сталіцы нашай рэспублікі. Старонкі, прысвечаныя гэтаму, — хвалюючыя, запамінальныя.

Зіна Гайдук здавалася Гані самай блізкай сяброўкай. Разам жа хадзілі нялёгкімі партызанскімі сцежкамі, дзялілі трывогу і небяспеку будняў народных мсціўцаў. Разам пачалі свае мірныя дні. Але чым глыбей пазнавала дзяўчына сваю таварышку, чым больш задумвалася пра яе паводзіны і стаўленне да жыцця, тым выразней перад Ганяй адкрывалася горкая ісціна, што «жыццё ў Зіны Гайдук ішло без мэты. Плыло, як лодка, у якой вясляр сядзеў без вёслаў. Куды імкнецца плынь, туды і лодка. То да аднаго берагу рэчкі падплывае, то да другога. То ў завадзь трапіць, то закружыцца на віры... А вясляр сядзеў і дабрадушна ўсміхаўся. Ён ніколі ні пра што не думаў, ні аб чым не задумваўся. Зіна сапраўды ніякай мэты ў жыцці не мела і не хацела мець. Так было ў партызанах, так і цяпер. Абы весела! Яна любіла жарты, гульні, кіно...» На такі шлях бяздумнага, бесклапотнага, разгульнага жыцця Зіна ўсяляк спакушала і Ганю. Аднак усе яе намаганні былі марнымі. Не пра гэткае марылася Гані, іншым шляхам пайшла дзяўчына.

Невяроўскую цягнула да людзей, да іх штодзённых клопатаў.

Па-мастацку выразна малюе пісьменнік сваю гераіню. І мы верым: вось такою была Ганя тады, калі тупала небяспечнымі партызанскімі сцежкамі, і такая яна цяпер, калі новым рэчышчам пайшло жыццё краіны і яе асабістае.

Неадлучны ад лёсу Гані Невяроўскай другі цэнтральны вобраз аповесці — Максім Вішнёў. Думаецца, правільна зрабіў пісьменнік, збудаваўшы твор на падмурку «Ганя — Максім». Гэты падмурак трымае на сабе ўсю аповесць.

Камандзіру танкавага экіпажа Максіму адна з чарговых баявых аперацый—наладзіць бязлітасны экзамен на трываласць, «на разрыў». Танк з перабітай гусеніцай акружылі ворагі. Таварышы дзесьці адсталі. Ці здолеюць выручыць?.. Ужо грукочуць па броні злыдні, здзекліва крычаць: «Рус, здавайся! Капут!».. Нацягалі пад танк ламачча... А камандзір машыны Максім не даў каманды здавацца. Ён адказваў за ўсіх, за ўвесь экіпаж. І быў упэўнены, што з самага цяжкага становішча бываюць выхады...

Таварышы пасля той пякельнай ночы ледзь пазнавалі ў сівым-сівым лейтэнанце Максіма Вішнёва...

Яны зноўку сустрэліся — франтавік і партызанка. Нешаблонна, далікатна паказаў пісьменнік нараджэнне і ўсталяванне ў маладых людзей пачуцця шчырага кахання. Хараша піша аўтар пра незабыўны пачатак сямейнага шчасця Гані і Максіма.

А час той быў вельмі складаны і ў жыцці краіны, і ў жыцці герояў аповесці. Вынырнуў аднекуль Намыснік, які неадступным ценем ступаў за Ганяй тады, калі скрываліся іх сцежкі-дарожкі. У партызанскім атрадзе ён быў камандзірам гаспадарчага ўзвода. Для саліднасці прасіў і, калі можна было, патрабаваў называць сябе «камандзірам каменданцкага ўзвода».

Шкада, што вобраз Намысніка, як пэўнай натуры, па-мастацку не аргументаваны. Ёсць Намыснік з загадзя зададзеным характарам. Вытокі гэтага характару, станаўленне яго — дзесьці па-за творам.

Іван Грамовіч аповесцю «Далі сабе слова» выказаў таксама свае думкі пра нашу сучасную моладзь, пра яе сёння і заўтра. Другая частка твора цалкам прысвечана пакаленню, якому дало жыццё пакаленне ваеннае. Спрадвечная праблема бацькоў і дзяцей, іх узаемаадносін і ўзаемаўплываў, хвалюе літаратара. На жыццёва важных сітуацыях вырашаецца яна. Думкі, разважанні, роздум пісьменніка — цікавыя, павучальныя.

Думаецца, што Іван Грамовіч правільна зрабіў, паклаўшы ў аснову аповесці «Далі сабе слова» адну з вельмі вострых маральна-этычных сённяшніх праблем — выхаванне нашай моладзі, яе месца ў заўтрашніх буднях краіны.

Грунт, на якім збудаваны твор, — трывалы, праўдай жыцця пазначаны.

**Іван КУДРАЎЦАЎ.**

Іван Грамовіч. «Далі сабе слова». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1970.

# У ГОСЦІ—ДА КВЕТАК

НЯДАЎНА на прылаўках магазінаў і кіёскаў з'явілася кніжка з прывабнаю назваю — «Чабарок». Яе аўтар—Авяр'ян Дзяружынскі. Народная прымаўка гаворыць: чалавека сустракаюць па вопратцы, а праводзяць па розуме. Тое ж самае можна сказаць і аб дзіцячай кніжцы: сустракаюць па афармленні, а ацэньваюць па змесце.

Якое ж уражанне пакінуў «Чабарок» (які, дарэчы, цікава аформлены мастакамі А. Бяркові і В. Стаінай) пасля чытання? Менавіта на гэтым я і хачу засяродзіць сваю ўвагу.

Нялёгкая задача стаяла перад аўтарам — пазнаёміць дзяцей з рознымі ягадамі і кветкамі, якія растуць, бадай, у кожным куточку нашага краю. Удалы запеў кніжкі — аўтар як бы падрыхтоўвае чытача да сустрэчы з родным наваколлем. Чытаючы «Чабарок», адчуваеш, што паэт умее бачыць, слухаць прыроду, нават размаўляць з ёю. Ён расказвае пра дзьмухавец, ажыну, аер, журавіны, брусніцы... Трэба было звярнуць увагу дзяцей на галоўнае—характэрныя асаблівасці кожнай з раслін. А каб зрабіць гэта, неабходна перш за ўсё зацікавіць маленькіх слухачоў. Паэт гаворыць з імі на своеасаблівай, «дзіцячай» мове—лаканічнай, зразумелай.

На палянцы у раўку
Расквітнеў
Баркун.
А лісты-трайнікі
Разрасліся
Убакі.
Кветкі —
Пакручастыя,
Жоўтыя.
Зубчастыя.

(«Баркун»)

або:

З тонкіх лісцікаў-пялёнак
Вылез раніцай
Рамонак.
Белай хусткай
Ахінуўся
І да сонца
Пацягнуўся.

(«Рамонак»)

Вершы-эскізы, вершы-карцінкі... Ужываючы трапныя параўнанні, гукавыя асацыяцыі, аўтар стварае выразны зрокавы малюнак. Ён адкрывае дзецям прыгожы і чысты свет кветак. Праўда, там, дзе паэт не знаходзіць адпаведных дэталей, свет гэты крышку блякне. Так, крыху агульна сказана пра белую лілею, а ў вершах «Герань» і «Кіслічка» не зусім, на мой погляд, удалыя канцоўкі: «Хараство, як дзіва, носіць, ды з травою разам скосяць» («Герань»), «Толькі ўдзень яе відаць,—бы знікае ўночы, бо яна кладзецца спаць, заплюшчыўшы вочы» («Кіслічка»).

Аднак гэтыя нязначныя пралікі не перашкаджаюць у цэлым добраму ўспрыняццю кніжкі. Ад «Чабарка» вее летам, густым настоем траў; яго карысна будзе прачытаць не толькі малому, але і даросламу, каб яшчэ больш даведацца пра палявыя, лугавыя і азёрныя кветкі, пра іх адметныя асаблівасці.

**Н. ГАЛІНОЎСКАЯ.**

А. Дзяружынскі. «Чабарок». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970.

# ПАХОДНЯ КРЫЛАТАЙ МАЛАДОСЦІ

НЕЯК на семінары творчай моладзі на маляўнічым беразе возера Свіцязь, які ЦК ЛКСМ Беларусі праводзіў сумесна з творчымі саюзамі рэспублікі, зайшла гаворка аб старэйшых школах літаратурнага майстэрства. Хлопцы перабіралі ў памяці аб'яднанні пры абласных, гарадскіх і раённых газетах, пры клубах і навучальных установах. І першым было названа чырвоназменаўскае аб'яднанне. Яно і сапраўды. Цяжка назваць імя пісьменніка, які б не быў у свой час звязаны з газетай, з яго літаратурным аб'яднаннем...

Літаральна з першых сваіх крокаў «Чырвонка» прыцягвала да сябе маладыя літаратурныя сілы. У брашуры «Чырвонай змене» — 25 год», выпушчанай у 1946 годзе выдавецтвам ЦК ЛКСМ Беларусі, Пятрусь Броўка пісаў: «Многія з сённяшніх сталых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў пачалі сваю працу на старонках «Чырвонай змены». Я не скажу, што абавязкова там былі надрукаваны іх першыя вершы ці апавяданні, але на працягу сваёй творчай маладосці яны друкаваліся там і выхоўваліся на старонках газеты. З ліку іх можна назваць Паўлюка Труса, Пятра Глебку, Аркадзя Куляшова, Максіма Лужаніна і многіх іншых».

Старэйшы журналіст Я. Садоўскі ўспамінае, што «Чырвоная змена» «брала на сябе ініцыятыву ў запрашэнні камсамольскіх паэтаў з Масквы. Аднойчы ў рэдакцыю ўваліліся гурбой Міхаіл Святлоў, Міхаіл Галодны, Джэк Алтаўзен і іншыя. Тут жа ўсе супрацоўнікі пакінулі свае сталы, згрудзіліся ў адным пакоі і прымусілі масквічоў чытаць свае вершы. Тыя чыталі так доўга, што нават ахрыплі».

У беларускую літаратуру ішлі новыя сілы, і газета ахвотна прадастаўляла месца лепшым творам «маладнякоўцаў», якія пісалі на беларускай мове, і «звенняўцам», якія пісалі на рускай мове. «Маладнякоўцы» і «звенняўцы» арганізоўвалі ў рэдакцыі газеты або ў камсамольскім клубе імя КІМ, куды потым пераехала рэдакцыя, свае літаратурныя вечары. На адным з такіх вечароў упершыню выступіў тады яшчэ студэнт Белпедтэхнікума Паўлюк Трус.

Плённую сувязь падтрымлівалі з газетай Платон Галавач (ён быў адначасова сакратаром ЦК ЛКСМ Беларусі і рэдактарам), Мікола Сурначоў, Сяргей Астрэйка, Аркадзь Гейнэ, Алесь Ліпнёвы, Станіслаў Шушкевіч, Павел Пруднікаў. У трыццатыя гады ў газеце супрацоўнічалі Аляксей Кулакоўскі і Тарас Хадкевіч.

Тарас Канстанцінавіч успамінае:

— Асабліва плённа я супрацоўнічаў у «Чырвонай змене» ў 1933—34 гадах, калі працаваў у рэдакцыі спецкарэспандэнтам. У той час на старонках газеты друкавалася даволі багата літаратурных матэрыялаў, быў спецыяльны літаратурны куток. Увосень 1934 года мяне прызвалі ў армію. Памятаю, якія ўрачыстыя провады арганізавалі мне сябры па пяры — «чырвоназменаўцы». Гэта на ўсё жыццё застанецца ў памяці.

Неўзабаве ў «Чырвонцы» змясцілі свае першыя вершы Пятро Прыходзька і Іосіф Васілеўскі. Крыху пазней на газетных старонках паявілася імя Анатоля Вялюгіна, потым — Івана Мележа.

Сёння сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Паўлавіч Мележ прыгадвае:

— У канцы 1938 года я, нарэшце, асмеліўся паслаць свой верш у Мінск, у рэдакцыю «Чырвонай змены». І вось у лютым наступнага года ён убачыў свет у выпуску літаратурнай старонкі. Гэта была мая першая публікацыя ў сталічнай газеце. Як сёння памятаю гэты дзень. З хваляваннем трымаў я газету. Якраз у гэты дзень я ехаў з Глінішч у Хойнікі. У машыне везлі лён. Пыл сляпіў вочы, але я быў у самым што ні ёсць лепшым настроі. Радавала мяне тое, што ў гэтым нумары я выступіў побач з такімі пісьменнікамі, як Антон Бялевіч і Алесь Бачыла.

Неўзабаве на старонках газеты выступіў Аркадзь Марціновіч. Гэта было напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны.

У нас у рэдакцыі ёсць стэнд, на якім змешчаны фатаграфіі «чырвоназменаўцаў», якія са зброяй у руках абаранялі нашу Радзіму. У вайсковым адзенні на нас глядзяць Мікола Аўрамчык, Мікола Гамолка, Артур Вольскі. Сувязь рэдакцыі з пісьменніцкімі сіламі не парывалася ў гады фашысцкай навалы. У складзе зусім нешматлікай рэдакцыі, якую ўзначальваў Міхаіл Барашкаў, працаваў Георгій Шчарбатаў. Літаратурная зброя была не менш дзейснай, чым зброя салдат і партызан. Менавіта таму ў спісе ўзнагароджаных Ганаровымі граматамі і Граматамі Вярхоўнага Савета БССР у красавіку 1946 года з нагоды 25-й гадавіны з дня выхаду ў свет першага нумару «Чырвонай змены» мы знаходзім імёны Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Алеся Асіпенкі, Авяр'яна Дзеружынскага, Алеся Якімовіча, Тараса Хадкевіча, Аляксея Кулакоўскага і іншых.

Новыя песні залуналі над знявечаным краем. Новым зместам напоўніліся творы пісьменнікаў, якія ў першыя пасляваенныя гады знітавалі свой лёс з «Чырвонкай» — Мікола Гамолка, Мікола Ваданосаў, Якуб Усікаў, Хведар Жычка, Уладзімір Мехаў, Леў Салавей...

Буялі краскі на лугах, польныя кветкі прыносілі людзі на сонечныя рыштаванні новага дома, новага прадпрыемства. І прыходзіла на нялёгкую літаратурную службу новае папаўненне. З лёгкай рукі Міколы Аўрамчыка з газетных старонак аб думах і планах свайго пакалення загаварылі Юрась Свірка, Рыгор Барадулін, Іван Калеснік і Уладзімір Паўлаў. Цяпер гэта вядомыя імёны ў нашай літаратуры.

Праз некаторы час з першымі апавяданнямі выступілі на старонках «Чырвонкі» празаікі Валянцін Мыслівец, Ігар Хадановіч, паэт Анатоль Грачанікаў.

Памятаю, як гадоў пяць назад да нас прыслала свае першыя вершы вучаніца Парэцкай сярэдняй школы Пінскага раёна Жэня Янішчыц. Іх абмеркавалі на чарговым пасяджэнні літаратурнага аб'яднання, прапанавалі падборку да друку. Сяброўская падтрымка, шчырыя нашы парады пайшлі паэтэсе на карысць. Сёння ў яе паэтычным багажы — першая кніжка «Снежныя грамніцы».

Мы ўпершыню надрукавалі і вершы былога трактарыста з Мядзельшчыны Мар'яна Дуксы, аўтара паэтычнага зборніка «Спатканне». Перада мной стос першых стракатых кніжак дзесяткаў маладых паэтаў, калектыўных зборнікаў. Леанід Дайнека і Казімір Камейша, Алесь Разанаў і Віктар Ракаў, Юрка Голуб, Сяргей Законнікаў, Леанід Якубовіч, Анатоль Казловіч... Гэта ўсё выхаванцы нашага літаратурнага аб'яднання, якому, як і газеце, спаўняецца пяцьдзесят.

На мяккіх сініх крылах на сталіцу апускаецца вечар. Светлымі цюльпанамі зацвітаюць ліхтары на Ленінскім праспекце. І да глыбокай начы гараць вокны на чацвёртым паверсе ў аддзеле літаратуры і мастацтва «Чырвонкі». Тут праходзіць чарговае пасяджэнне літаратурнага аб'яднання. Часам спрэчкі зацягваюцца за поўнач. Аматары літаратуры, наша новая літаратурная рунь — Іосіф Скурко, Галіна Каржанеўская, Валерый Шыханцоў, Людміла Забалоцкая, Леанід Аноп, Алесь Гаўрон, Галіна Стома, Леў Мароз разам з літкансультантам Яўгенам Крупенькам абмяркоўваць чарговы выпуск «Крыніц». Хочацца спадзявацца, што і на гэты раз ён будзе цікавым, што ён пазнаёміць нашага маладога чытача з новымі імёнамі, з новымі творамі літаратуры, музыкі, мастацтва...

Так, так, я не памыліўся. У апошнія гады мы запрашаем на свае пасяджэнні не толькі літаратараў, але і кампазітараў, мастакоў, артыстаў. Мы ўпэўнены, што творчая дружба прадстаўнікоў розных сфер мастацтва прынясе і прыносіць добры плён. Сведчанне таму — новыя песні кампазітараў Ігара Лучанка і Кіма Цесакова на тэксты маладых, рэпрадукцыі лепшых работ маладых мастакоў, якія ўпрыгожваюць нашы старонкі, дзесяткі цёплых сардэчных сустрэч з нашымі чытачамі ў школах і інстытутах, у калгасах, саўгасах і на прадпрыемствах. Сведчанне таму — значны рост павагі, усталяванне аўтарытэту старэйшай рэспубліканскай маладзёжнай газеты.

**Валянцін ЛУКША,**
загадчык аддзела літаратуры і мастацтва рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», старшыня бюро творчага аб'яднання «Крыніцы».

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*



ДЗЯРЖАЎНЫ акадэмічны тэатр оперы і балета БССР паказаў мінчанам новы балет Генрыха Вагнера «Пасля балю». Лібрэта А. Дадзішкіліяні па матывах аднайменнага апавядання Л. Талстога. Балетмайстар А. Дадзішкіліяні, дырыжор Ул. Машэнскі, мастак Я. Ждан. На здымку — выканаўцы галоўных партый Л. Бржазоўская і Ю. Траян.

Фота Ул. КРУКА.

**ВОДГУКІ, АДКАЗЫ**

## «КАЛІ ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ СПАКОЙНА»

*Пад такім загалоўкам у «Літаратуры і мастацтве» ад 8 студзеня г. г. была змешчана карэспандэнцыя М. Бярэзінскага. У ёй расказвалася аб дрэннай рабоце клуба Бабруйскага завода гумавых тэхнічных вырабаў і яго загадчыка А. Бяліка, няправільных адносінах тав. Бяліка да некаторых супрацоўнікаў.*

*Сакратар Бабруйскага гарадскога камітэта партыі З. Зарэцкая паведаміла рэдакцыі, што па апублікаванай карэспандэнцыі была праведзена праверка работы клуба. Вынікі праверкі абмеркаваны на савеце гарадскога аддзела культуры. Факты нездавальняючай работы клуба пацвердзіліся. Гарком партыі прапанаваў парткому завода распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па паляпшэнні культурна-масавай работы клуба, разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці трымаць тав. Бяліка на пасадзе загадчыка клуба.*

## ГЭТАК ЖА, ЯК ДЛЯ ДАРОСЛЫХ, ТОЛЬКІ ЛЕПШ

*СА СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧАГА СХОДУ СЕКЦЫІ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ*

НЯМА больш удзячнага чытача, чым юны чытач. І няма больш патрабавальнага чытача, чым нашы дзеці. Пісьменнікі, якія пішуць для юных грамадзян, адчуваюць на сабе іх патрабавальнасць і бескампраміснасць у поўнай меры. Не дарэмна ў свой час былі сказаны мудрыя словы: для дзяцей трэба пісаць гэтак сама, як і для дарослых, толькі лепш.

Пра ўсё гэта ішла нядаўна гаворка на справаздачна-выбарчым сходзе секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР, на якім з дакладам выступіў старшыня бюро секцыі Васіль Хомчанка.

Ён сказаў, што за справаздачны перыяд дзіцячыя пісьменнікі напісалі і выдалі нямала новых твораў—аповесцяў, апавяданняў, паэм, вершаў, казак. В. Хомчанка спыніўся на некаторых аповесцях. Значнай падзеяй у літаратурным жыцці была аповесць І. Сяркова «Мы — хлопцы жывучыя», працяг аповесці «Мы з Санькай у тыле ворага». Яна яшчэ раз пацвердзіла, што ў асобе І. Сяркова ў беларускую дзіцячую літаратуру прыйшоў таленавіты пісьменнік. Шчырасць і непасрэднасць, уменне расказаць нават пра вельмі складаныя рэчы, гумар — вызначальныя рысы творчага почырку аўтара. Але ёсць у другой аповесці і старонкі, дзе аўтар пачынае сачыняць (раздзел «Ваўкалак»), і яны выглядаюць слабейшымі. Няроўна напісана першая аповесць Клаўдзі Каліны «Забароненая песня». Побач з каларытнымі і жывымі вобразамі ёсць вобразы-схемы, бледныя цені людзей. Удачай М. Герчыка можна было б назваць аповесць «Солнечный круг», калі б яго героі менш гаварылі, калі б цэлыя старонкі не займаліся нязначнымі дыялогамі і размовамі. Цікавай абяцае быць аповесць Л. Арабей «Сіні Бор».

А. Дзеружынскі дапоўніў дакладчыка, расказаўшы аб тым, што было выпушчана летась для дзяцей і юнацтва выдавецтвам «Беларусь». Гэта калектыўны зборнік «Слова пра родны кут», «Лёс майго земляка» І. Шамякіна, «Тайна аднаго звяна» А. Пальчэўскага, «Букет вяргіняў» Х. Жычкі, «Новы свет» А. Васілевіч, «Вясёлыя дзятлікі» С. Шушкевіча, «Дзе сонца начуе» Ул. Юрэвіча, «Парсекі за links кармой» Ул. Шыціка, «Каласавічок» Д. Слаўковіча і многія іншыя. Выходзяць «Тры старонкі з легенды» Г. Бураўкіна, «Дзічка» Д. Бічэль-Загнетавай. З'явай у беларускай дзіцячай літаратуры абяцае быць «Чытанка-маляванка» В. Віткі.

А. Дзеружынскі, а таксама А. Пальчэўскі, А. Якімовіч, М. Чарняўскі, якія выступілі ў спрэчках, ставілі пытанне аб тым, што наспела патрэба арганізаваць асобнае выдавецтва дзіцячай літаратуры, значна павялічыць памеры часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка». Склалася такое становішча, што дзіцячыя аповесці і іншыя буйныя творы няма зараз дзе друкаваць. Аўтарам прапаноўваюць у часопісах «рэзаць» творы напалам або рабіць з іх апавяданні.

Адмоўна ўплывае на якасць дзіцячых кніжак тое, што ў нас няма крытыкаў, якія прысвяцілі б сваё пяро праблемам беларускай дзіцячай літаратуры. Шмат кніг увогуле застаецца па-за ўвагай нашых рэцэнзентаў, а пра іх жа можна было б гаварыць хоць ў гадавых аглядах.

Ю. Багушэвіч і Э. Агняцвет прысвяцілі свае выступленні праблемам выхавання маладога пакалення, стварэнню кніг пра сучасную вёску і горад, пра нашых рабочых, школьнае жыццё.

На сходзе было выбрана новае бюро секцыі дзіцячай літаратуры ў складзе В. Хомчанкі (старшыня), М. Гамолкі (намеснік), Г. Васілеўскай (сакратар), Э. Агняцвет, В. Віткі, А. Марціновіча, А. Пальчэўскага, П. Ткачова, А. Якімовіча.

**Ж. СІНЕЛЬНІКАВА,**
**начальнік упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР**



# ЗА ДРУЖБУ З ТВОРЧЫМІ САЮЗАМІ!

**ЧАРГОВЫ з'езд беларускіх пісьменнікаў — гэта падзея і для работнікаў культасветустаноў рэспублікі.** У гэтыя два дні, што засталіся да з'езда, культасветработнікі яшчэ і яшчэ раз успамінаюць усё, што было зроблена, каб пісьменнікі, а таксама члены іншых творчых саюзаў і аб'яднанняў пасябравалі з клубамі, бібліятэкамі, паркамі, музеямі, удзельнікамі мастацкай самадзейнасці, раздумваюць над вынікамі гэтай дружбы, над шляхамі яе далейшага развіцця.

Ужо сёння відаць яскравы плён нашай дружбы. Радаснымі падзеямі, сапраўднымі святамі былі для жыхароў гарадоў і вёсак сустрэчы з пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, артыстамі тэатраў, работнікамі беларускай кінематаграфіі, якія паўсюдна прайшлі напярэдадні і ў час работы XXIV з'езда Камуністычнай партыі. Дні беларускай літаратуры выліліся ў трыумф нашай нацыянальнай культуры. Ва ўсіх кутках Беларусі пабывалі многія дзесяткі груп пісьменнікаў. У палацах і клубах, бібліятэках і парках, на прадпрыемствах, у навучальных установах адбылося больш дзевяцісот выступленняў, на сустрэчах з пісьменнікамі прысутнічала каля ста тысяч чалавек. Тысячы нашых рабочых і сялян, работнікаў культуры, тэхнічнай інтэлігенцыі атрымалі ў гэтыя дні дарагія для іх аўтографы майстроў прыгожага пісьменства, а ўсе кнігі беларускіх пісьменнікаў, раскупленыя ў гэтыя дні, цяжка нават злічыць.

У рабоце культасветустаноў адной з галоўных, нявырашаных праблем з'яўляецца праблема кадраў. Мы пакуль што яшчэ не можам забяспечыць усе клубныя ўстановы кваліфікаванымі работнікамі. Вось чаму сёння хочацца сказаць дзякуй нашым пісьменнікам, творчай інтэлігенцыі за тое, што яны памагаюць нам рашыць гэтую важную задачу. Развіццё літаратуры і мастацтва, сустрэчы з нашымі творчымі работнікамі вельмі добра ўплываюць на павышэнне агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню нашых клубнікаў і бібліятэкараў. Такія сустрэчы духоўна ўзбагачаюць іх, садзейнічаюць павышэнню іх ідэйнага росту, кваліфікацыі.

Саюз пісьменнікаў з'яўляецца ініцыятарам штогадовых семінараў самадзейных чытальнікаў-прапагандыстаў беларускай літаратуры, актыўных удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Такія семінары праводзяцца звычайна ў Каралішчавічах разам з Рэспубліканскім домам народнай творчасці і прыносяць вялікую карысць.

Работнікі нашых бібліятэк часта бываюць у гасцях у Саюзе пісьменнікаў, памагаюць наладжваць сустрэчы аўтараў з іх чытачамі, арганізуюць чытацкія канферэнцыі. Сустрэчы бібліятэкар — пісьменнік памагаюць нашым лоцманам кніжных мораў пастаянна адчуваць пульс літаратурнага жыцця, умела прапагандаваць беларускую літаратуру, накіроўваць інтарэсы чытачоў. Цікавай была сустрэча юных чытачоў дзіцячых бібліятэк рэспублікі з Я. Брылём, С. Грахоўскім, А. Пальчэўскім, В. Хомчанкам, Ул. Юрэвічам, А. Якімовічам. Вельмі карыснай была сустрэча бібліятэкараў рэспублікі з пісьменнікамі А. Бачылам, А. Зарыцкім, А. Мальдзісам, Я. Скрыганам, Б. Спрынчанам, І. Шамякіным на рэспубліканскай канферэнцыі бібліятэчных работнікаў, калі ішоў напружаны дыялог аб ролі бібліятэкара і пісьменніка ў прапагандзе беларускай літаратуры.

Усё больш змястоўнай робіцца работа нашых літаратурных музеяў. Нашы пісьменнікі і тут унеслі немалы ўклад. Традыцыйнымі ўжо сталі літаратурныя вечары ў Купалавым доме. На вечары «Прывет вам, вольныя паэты» выступалі М. Аўрамчык, А. Бачыла, П. Броўка, Г. Бураўкін, С. Грахоўскі, К. Кірэенка, Н. Гілевіч, А. Лойка, М. Танк, С. Шушкевіч, Ж. Янішчыц. Разам з Саюзам кампазітараў быў задуманы і праведзены вечар «Я. Купала і музыка», з Саюзам мастакоў — «Творчасць Я. Купалы ў выяўленчым мастацтве», з Беларускім тэатральным аб'яднаннем —«На сцэне і ў зале—Купала». Гэта толькі некаторыя з мерапрыемстваў, якія праводзяцца супрацоўнікамі музея Я. Купалы з нашымі пісьменнікамі, мастакамі і кампазітарамі. Многа пісьменнікаў і іншай творчай інтэлігенцыі ўдзельнічаюць у рабоце Літаратурнага музея Я. Коласа.

Творчыя саюзы рэспублікі, тэатры, Беларуская дзяржаўная філармонія шмат дапамагаюць універсітэтам культуры, якія працуюць у нашых клубах і палацах. Саюз пісьменнікаў, напрыклад, ужо шмат гадоў падтрымлівае сувязь з універсітэтам культуры Уздзенскага раённага Дома культуры. Неаднаразова ва універсітэце выступалі пісьменнікі А. Астрэйка, Л. Арабей, А. Бялевіч, Ул. Корбан, А. Махнач, А. Пальчэўскі, А. Русак і іншыя.

І як не адобрыць сумесную работу пісьменнікаў, кампазітараў, харэографаў па стварэнні рэпертуару для ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці! Мы вельмі ўдзячны паэту А. Бачылу і кампазітару Ю. Семяня-

**Макар ПАСЛЯДОВІЧ**



# ЧАС ВЯЛІКІХ ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ

ЧАСТА МЫ, займаючыся ў сваіх творах тымі ці іншымі сучаснымі праблемамі, абапіраемся на факты ледзь не дарэвалюцыйнай даўнасці. На людзей і справы, якія ўразілі нас яшчэ ў маленстве і запомніліся на ўсё жыццё. Можа таму, што яны яркія, незабыўныя. Як, напрыклад, славуты верш Якуба Коласа «Наш родны край». Альбо яшчэ яго адзін выдатны твор «Асадзі назад». Усё ў гэтых літаратурных шэдэўрах на сваім месцы, усё, як гаворыцца, навукова абгрунтавана: і пейзаж, і час, і людзі. Гістарычная і мастацкая дакладнасць, уласцівая вялікім майстрам слова, заўсёды хвалявала чытача.

Але паспрабуйце напісаць нешта падобнае пра наш сённяшні дзень, і чытач адразу запярэчыць, прыгадае вам і салігорскія шахты, і рэчыцкія нафтавыя вышкі, і многія сотні тысяч гектараў балот, асушаных за гады Савецкай улады. Якая ж гэта беднасць? А першакласныя заводы і фабрыкі, а буйныя калгасы і саўгасы, а тысячы светлых новых школ, клубаў, дамоў культуры? Нават знешні выгляд людзей, на дзедаў і прадзедаў якіх царскія жандары і старасты ўладна раўлі «асадзі назад!»,—стаў іншы.

— Падпішыце мне, калі ласка, кнігу,—просяць цяпер яны Анатоля Астрэйку, Васіля Быкава, Паўла Ткачова, Алеся Бажко, Вольгу Іпатаву і аўтара гэтых радкоў. І мы падпісваем не толькі свае, але і творы сваіх таварышаў. Падпісваем у Карэлічах і Наваградку, у Дзятлаве і Шчучыне, у Мастах і абласным цэнтры— Гродне. Рабочым, калгаснікам, настаўнікам, вучням.

— А гэту, калі ласка, падпішыце Васільку,—падаючы кнігу, гаворыць пажылая жанчына і растлумачвае:— Гэта мой унук, яму шэсць год, але ён любіць слухаць, калі я чытаю. Няхай яму будзе на добрую памяць, што вы прыязджалі ў наш калгас.

Вельмі гасцінна, вельмі сардэчна сустракалі нас і ў калгасе імя Калініна Карэліцкага, у «Свіцязі» Навагрудскага, у «Чырвоным Кастрычніку» Дзятлаўскага, у «Зары камунізма» Шчучынскага, «Маяку» Мастоўскага і ў «Прагрэсе» Гродзенскага раёнаў. Абавязкова з хлебам-соллю. Нам гаварылі:

— Заставайцеся ў нас, паглядзіце, як мы жывём, працуем. Калі не можаце застацца цяпер, падбярыце час, прыязджайце ўлетку. І жывіце тут, колькі вам трэба.

Першы сакратар Карэліцкага райкома партыі Аляксей Аляксандравіч Яновіч, гавораць, самы малады з усіх першых райкомаўскіх сакратароў Беларусі (яму ўсяго 30 гадоў), сказаў нам у гутарцы:

— У 1965 годзе наш раён сабраў па 15,2 цэнтнера збожжа з гектара. Летась мы вырасцілі па 28,9 цэнтнера. На дзевятую пяцігодку мы запланавалі па 35 цэнтнераў з кожнага гектара.

Чалавек з вышэйшай адукацыяй, аграном па спецыяльнасці, увесь дынамічны, ён гаварыў пра ўраджай лёну, бульбы, пра надоі малака, механізацыю ферм, не зазіраючы ў раскладзеныя на стале паперы.

Мінулае... Для многіх, хто сядзеў у зале альбо выступаў з трыбуны, яно было далёкай гісторыяй, пачутай ад старэйшых ці вычытанай з кніжак. Сённяшнія хлебаробы—трактарысты, жывёлаводы, настаўнікі, вучні старэйшых класаў гаварылі пра мастацкую літаратуру, як пра вельмі важную і патрэбную для іх справу. Можа быць гаварылі крышачку ўрачыста, па-святочнаму, але шчыра.

— Вядома, вёска цяпер не тая,

— Вядома, ёсць у нас нявырашаныя праблемы,—працягвае Аляксей Аляксандравіч.—Гаспадарчыя і іншыя. Нам яшчэ патрэбны дажджавальныя ўстаноўкі, неабходна наладзіць службу быту, рамонт тэлевізараў, рамонт дамоў. Патрэбны зодаправоды. Вялікі попыт у людзей на газавыя пліты, а іх нам даюць вельмі мала.

Аляксей Аляксандравіч зірнуў на гадзіннік.

— Але пойдзем у Дом культуры. Людзі, відаць, сабраліся.

Над карэліцкай зямлёй дзьмуў цёплы веснавы вецер. Абыходзячы ўпоцемку лужыны і гразь, мы дабраліся да машын. Хвілін праз пяць яны спыніліся перад прысадзістым, але ёмістым будынкам, усе вокны якога прамяніліся электрычным святлом. З більярднага пакоя ў прасторным фае даходзіў стук шароў і ажыўленыя воклічы балельшчыкаў. Праз расчыненыя дзверы другога пакоя было відаць, як рыхтаваліся да выступлення самадзейныя артысты.

Усё гэта—і прасторнае фае, і сучасная мэбля, і людзі, пажылыя і маладыя, што неўзабаве запоўнілі вялікую прыгожую залу, здавалася, былі за тысячу год ад тых часоў, калі былі напісаны «Наш родны край» і «Асадзі назад». Заходнія раёны Беларусі дачакаліся свайго шчаслівага росквіту, пра які, так мужна выкрываючы зверскі лад царскіх сатрапаў і крывавых пілсудчыкаў, марыў вялікі паэт.

якою яна была, скажам, дваццаць ці нават дзесяць гадоў таму назад,—загаварыў пасля літаратурнага вечара Аляксей Аляксандравіч.—Сёння ў нашым раёне працуе 2 тысячы спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй. Адных настаўнікаў семсот чалавек. 360 з іх закончылі адукацыю і вярнуліся працаваць у родныя мясціны. Сёлета 500 юнакоў і дзяўчат заканчваюць сярэднюю школу. Не ўсе яны паступяць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Частка з іх пойдзе працаваць у калгас. Раней мы лічылі, што, каб затрымаць моладзь, трэба толькі будаваць клубы, палацы культуры, вядома, з кінаўстаноўкамі. У нашым раёне пабудавана дзесяць тыпавых клубаў, ёсць тры музеі, я ўжо не кажу пра бібліятэкі. Ёсць маладым дзе адпачыць, паглядзець фільм, патанцаваць, падабраць цікавую кніжку. Здавалася б, чаго больш хацець? Але, аказваецца, гэтага сёння ўжо мала. Мала і добрых заробкаў, скажам, па сто пяцьдзесят рублёў на жывёлагадоўчых фермах. І вось тут, у калінінцаў, мы заўважылі цікавую з'яву. Хлопцы пасля сярэдняй школы застаюцца ахвотна працаваць у родным калгасе, а дзяўчаты з'язджаюць у горад. Што такое? Чаму? У горадзе ж дзяўчына так хутка не заробіць без спецыяльнасці столькі, колькі яна можа зарабіць, скажам, калі будзе даіць тут кароў ці гадаваць цялят. Пачалі шукаць прычыну, распытваць у людзей. Аказваецца, хлопцы больш захапляюцца тэхнікай, любяць трактары, камбайны, аўтамашыны, электраматоры. Каго што вабіць. І такой тэхнікі ў любым калгасе штогод большае.

Што ж мы пачулі ад дзяўчат?

—На фабрыку, на завод чалавек ідзе ці едзе ў добрым, прыстойным адзенні. Там ён пераапранаецца, скідвае на сябе халат ці звычайную робу, вешае паліто ў шафу і ідзе да станка. На заводзе ёсць душ, дзе можна спаласнуць з сябе пасля змены бруд. Чаму не зрабіць такое на ферме? Навошта цягаць надушаную каро́ўнікам вопратку дадому? Няхай яна вісіць заўсёды, як і ў фабрычнай бытоўцы, на ферме. Можа я хачу трымаць там у шафе і адэкалон!..

Аляксей Аляксандравіч на хвілю змоўк і паглядзеў на нас, усміхнуўся і дадаў:

— У новых комплексах, якія мы цяпер будуем, гэта ўсё прадугледжана. Але шмат яшчэ работы наперадзе. Без культуры працы сёння далёка не ступіш. Вось мы спаборнічаем з Навагрудскім раёнам. Першы сакратар там Валянцін Іванавіч Міцкевіч—чалавек з вялікім вопытам. Навагрудак атрымаў сцяг ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР і першую прэмію за лён. Мы, аднак, не збіраемся ім паддавацца. Пастараемся сёлета заваяваць першынства.

Мы рушылі ў Навагрудак.

Мясцовасць мянялася з выгляду. Часцей трапляліся ўзгоркі, на полі і ў лесе было больш снегу. Мы падымаліся наверх так званай Навагрудскай грады, якая толькі на якіх два дзесяткі метраў ніжэйшая за лагойскую Лысую гару. За крутымі ўзгоркамі адкрываліся шырокія даліны з утульнымі вёскамі і калгаснымі фермамі, да якіх беглі слупы электраліній.

Як дорага была для нас яшчэ не так даўно хоць бы адна электрычная лямпачка ў сельскай хаце! Нават у многіх раённых цэнтрах карысталіся для асвятлення газай.

У Навагрудку тая ж самая цеплыня сустрэч з нашымі чытачамі, як і ў Карэліцкім раёне. Спярша ў горадзе—са студэнтамі гандлёва-эканамічнага і сельскагаспадарчага тэхнікумаў, з вучнямі школы механізацыі, а ўвечары з хлебаробамі калгаса «Свіцязь». На радзіме Адама Міцкевіча, відаць, любяць паэзію і паэтаў, бо надта ўжо ўважліва слухалі Вольгу Іпатаву і Анатоля Астрэйку.

— Нічога дзіўнага няма,—сказаў нам першы сакратар райкома Валянцін Іванавіч Міцкевіч.—Народ цяпер даволі пісьменны. З аднаго толькі нашага сельсавета, дзе размешчаны калгасы «Шчорсы» і «Звязда», за гады Савецкай улады вышэйшыя навучальныя ўстановы скончыла 450 чалавек. У раёне працуе каля пяці тысяч спецыялістаў. Людзі любяць жывое, трап-

ку, якія свой новы твор «Хатынскія званы» перадалі для першага выканання Магілёўскай харавой капэле. Па заказе Рэспубліканскага дома народнай творчасці цікавыя сцэнарыі для агітацыйна-мастацкіх брыгад «Моладзь за партыяй ідзе», «Святло бяссмертнікаў», «Песня пра хлеб» падрыхтавалі напярэдадні XXIV з'езда КПСС паэты М. Арочка, А. Вольскі, П. Прыходзька. Актыўна працуюць для ўзбагачэння рэпертуару самадзейных артыстаў А. Астрэйка, Н. Гілевіч, А. Дзеружынскі, П. Макаль, П. Харкоў, М. Скрыпка. Міністэрства культуры і Саюз пісьменнікаў БССР аб'явілі рэспубліканскі конкурс на аднаактовыя п'есы. Мы чакаем ад яго добрага плёну, чакаем, што ён прынясе цікавыя творы на сучасную тэматыку, якіх так нестае нашым самадзейным калектывам.

Поспех заўсёдыналучае там, дзе пісьменнікі, кампазітары і іншыя дзеячы мастацтва наладжваюць з калектывамі сталыя сувязі, памагаюць удзельнікам мастацкай самадзейнасці глыбей зразумець ідэйную накіраванасць іх твораў. Пра гэта гаворыць практыка К. Губарэвіча, В. Зуба, І. Мележа, І. Шамякіна і іншых драматургаў, якія дапамагалі народным тэатрам у рабоце над спектаклямі па іх творах. Аб гэтым сведчыць і поспех ансамбля песні і танца «Нёман», які падтрымлівае сталую сувязь з паэтамі і кампазітарамі. Нядаўна для гэтага калектыву кампазітары І. Лучанок, Э. Казачкоў і паэт М. Алтухоў падрыхтавалі вакальна-харэаграфічную кампазіцыю «Провады», якая вобразна ўзнаўляе новы цікавы абрад, які нарадзіўся на Гродзеншчыне, — праводзіны моладзі на службу ў Савецкую Армію.

Калі ўжо зайшла гаворка пра сувязі з іншымі творчымі саюзамі і калектывамі, то варта сказаць пра гэта больш падрабязна. Мы высока ацэньваем творчую дружбу тэатральных установ з самадзейнымі калектывамі. Трывалыя кантакты ўстанавіў Беларускі дзяржаўны тэатр імя Я. Коласа з многімі народнымі тэатрамі вобласці. Артыст Г. Дубаў, напрыклад, трымае шэфства над Багушэўскім народным тэатрам, заслужаны артыст БССР Б. Левін — над Полацкім народным тэатрам і драматычным калектывам Талачынскага раённага Дома культуры. Не злічыць усіх лекцый, якія прачытаны коласаўцамі ў гарадах і вёсках Віцебшчыны аб гісторыі свайго тэатра і ўвогуле тэатральнай справы ў Беларусі, аб акцёрскім майстэрстве. Цікавыя кансультацыі праводзіць у Цімкавіцкім народным тэатры Капыльскага раёна актрыса Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага Е. Стрыжова. Спецыяльныя дні кансультацый і творчай вучобы ўстаноўлены ў Брэсцкім тэатры імя ЛКСМБ. У гэтыя дні кіраўнікі мастацкай самадзейнасці слухаюць у тэатры лекцыі і гутаркі, прысутнічаюць на рэпетыцыях, займаюцца з мастаком тэатра. Трэба сказаць, што ўсе нашы тэатры ў апошні час сталі актыўней удзельнічаць у творчым жыцці сваіх «малодшых братоў» — памагаюць афармляць і здаваць спектаклі, праводзяць на месцы кансультацыі і метадычныя заняткі, аказваюць матэрыяльную дапамогу.

Асабліва многа абяцае даць і дае ўжо зараз работа ў мастацкай самадзейнасці людзей, якія праславілі наша беларускае мастацтва. Майстры беларускай сцэны прымаюць актыўны ўдзел у рабоце так званай творчай лабараторыі рэжысёраў народных тэатраў, якая працуе пры Рэспубліканскім доме народнай творчасці. Кіраўнікі самадзейных тэатраў не раз сустракаліся з народнымі артыстамі СССР П. Малчанавым і Я. Палосіным, Л. Рахленкам, З. Стомай. Пастаянную дапамогу гэтай лабараторыі аказвае Беларускае тэатральнае аб'яднанне. Семінары кіраўнікоў народных хораў і капэл, ансамбляў песні і танца як правіла праводзяцца на базе Дзяржаўнага народнага хору БССР і Дзяржаўнага ансамбля танца рэспублікі. Хормайстры і харэографы гэтых калектываў заўсёды адносіліся да сваіх гасцей зычліва, імкнуліся шчыра падзяліцца сваімі ведамі і вопытам.

Ніводзін конкурс, фестываль ці агляд самадзейнасці не праходзіў без актыўнага ўдзелу прадстаўнікоў творчых саюзаў, арганізацый і ўстаноў культуры. У арганізацыйных камітэтах і журы неаднаразова ўдзельнічалі Л. Александроўская, С. Грахоўскі, І. Лакштанаў, М. Маслаў, Г. Паплаўскі, Ю. Семяняка, Ул. Стэльмах, Ю. Ужанцаў, Г. Цітовіч, Р. Шырма і многія іншыя дзеячы нашай культуры. Творчая канферэнцыя па выніках рэспубліканскага конкурсу мастацкай самадзейнасці, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, прайшла пры актыўным удзеле выкладчыкаў кансерваторыі, майстроў мастацтваў, мастацтвазнаўцаў, якія зрабілі глыбокі аналіз развіцця асноўных жанраў самадзейнага мастацтва і тым самым падказалі шляхі яго далейшага развіцця.

Усё гэта, безумоўна, добра, усё гэта радуе. Але сёння, напярэдадні чарговага з'езда пісьменнікаў, раздумваеш і разумееш: не ўсё зроблена, што можна было б зрабіць, не ўсе магчымасці выкарыстаны — нават па лініі аднаго СП БССР. Я мару пра той час, калі літаратурныя гурткі пад кіраўніцтвам пісьменнікаў будуць працаваць не толькі пры раённых і абласных газетах, але нават у вялікіх клубах і палацах, калі будзе аказвацца пачаткоўцам дапамога ў стварэнні песенных тэкстаў і не будзе таго, як гэта часам здараецца цяпер, што на музыку кладуцца кепскія вершы. Я мару пра тое, каб кожны пісьменнік узяў пастаяннае шэфства над бібліятэкаю той вёскі ці таго раённага цэнтра, дзе ён нарадзіўся, вучыўся, выходзіў у свет. Каб у кожнай нашай бібліятэцы часцей праводзіліся канферэнцыі па кнігах пісьменнікаў — землякоў і не землякоў. Каб сталыя сувязі ўстанавіліся паміж Саюзам пісьменнікаў, яго бюро прапаганды беларускай літаратуры з факультэтамі літаратуры нашых грамадскіх універсітэтаў. Каб бюро прапаганды беларускай літаратуры няспынна пашырала формы сваёй работы, не займалася арганізацыяй адных выступленняў пісьменнікаў. Я, напрыклад, бачу ў думках цікава зробленую, змястоўную, высокаідэйную кніжку — зборнік беларускіх тэкстаў «У дапамогу чытальнікам», бачу серыі брашур пра нашых пісьменнікаў, падрыхтаваныя гэтым бюро сумесна з таварыствам «Веды».

Усё гэта і многае-многае іншае, што народзіцца ў выніку развіцця нашага сяброўства, паможа падняць узровень работы нашых устаноў культуры, паможа выканаць тыя задачы, што вынікаюць з рашэнняў XXIV з'езда партыі.

нае слова. Мы перадалі Валянціну Іванавічу прывітанне ад Яновіча.

— Дзякуй, — усміхнуўся Міцкевіч. — Аляксей Аляксандравіч чалавек сур'ёзны і настойлівы, хоць і малады. Умее думаць. Любіць паслухаць, што думаюць другія. А гэта вельмі важна ў нашай партыйнай працы. Карэлічы перагналі нас па ўраджайнасці збожжа. Летась мы атрымалі па дваццаць пяць і сем дзесятых цэнтнера з кожнага гектара. Праўда, на паасобных участках у гаспадарках «Звязды», імя Леніна, у «Рассвеце» сабрана нават па пяцьдзесят цэнтнераў. Але мы, паўтараю, усё ж не дацягнуліся да Карэлічаў. Пастараемся дагнаць сёлета. На першы год гэтай пяцігодкі мы запланавалі трыццаць цэнтнераў.

Мы слухалі Валянціна Іванавіча і, відаць, кожны з нас думаў, якая вялікая работа праведзена Камуністычнай партыяй па выхаванні і падборы кадраў. Дзелавітых, разважлівых, эрудыраваных, якія ведаюць не толькі, што патрэбна, каб вырасціць важкі колас, але ўмеюць ацаніць і наша пісьменніцкае слова.

Потым мы гаварылі пра развіццё нашай беларускай савецкай літаратуры, чыталі свае творы, слухалі выступленні настаўнікаў і вучняў у Наваельні, Дзятлаве, у калгасе «Чырвоны Кастрычнік», і мяне ўвесь час не пакідала думка, як шмат намі не зроблена і недароблена праз непатрэбную мітусню, як многа блытанага і саматужнага было ў нашых літаратурных спрэчках. Прыпомніўся леташні сімпозіум па рабочай тэме, на якім гаворка некаторых прамоўцаў пра выпадковае і другараднае засланіла высакародную постаць таго, хто стварыў і стварае нашы заводы і электрастанцыі, будуе нам дамы і школы, здабывае нафту і жалеза. Сустракаюцца ў нашым літаратурным асяроддзі і мяшчанская фанабэрыя, і самалюбаванне, і пыха, праз якія аўтар не можа разгледзець, што яго творам яшчэ далёка да таго, якімі яны павінны быць, каб выхоўваць у чытача пачуццё чалавека і грамадзяніна.

Ёсць непадалёку ад Дзятлава калгас «Ахонава». Дачуліся калгаснікі, што ў раён прыязджаюць пісьменнікі. Жанчыны пачалі гаварыць пра кветкі, з якімі сустракаюць гасцей. Звенявая Люба Малько слухала звычайныя ў такіх выпадках размовы, а пасля прамовіла:

— Можа, саткаць нам габелен? Такі, каб ім спадабўся. Ніткі ў нас ёсць.

— Што ты, Люба! — здзівіліся сяброўкі. — Хутка ноч. А заўтра яны выступаюць у «Чырвоным Кастрычніку» і, гавораць, паедуць далей, у Шчучын. Калі мы паспеем?

— Будзем працаваць усю ноч.

Марыя Снітко і Люба Малько узяліся рыхтаваць і падбіраць ніткі розных адценняў. Галіна засела за кросны. Залятаў туды-сюды чаўнок...

Яны працавалі без адпачынку аж да відна. Надпіс зрабілі, калі ўжо добра развіднела: «Нашым беларускім пісьменнікам ад калгасніц «Ахонава». Загарнулі зробленую іх залатымі рукамі рэч ў празрысты пластык, панеслі да старшыні калгаса Аблажэя.

— Вязіце, Станіслаў Баляслававіч, у «Чырвоны Кастрычнік» на сустрэчу. Не забудзьце сказаць, што габелен — наша любоў да пісьменнікаў.

Станіслаў Баляслававіч перадаў нам у клубе «Чырвонага Кастрычніка», дзе сабраліся прадстаўнікі ўсіх калгасаў і саўгасаў раёна, не толькі сатканы дзівоснымі рукамі габелен і сардэчныя словы жанчын «Ахонава». Ён сказаў шмат цёплых слоў і добрых пажаданняў.

Выслухаўшы яго, наш Анатоль Астрэйка, на што ўжо чалавек стрыманы, пакруціў галавою і прамовіў у задуменні:

— Гэта, хлопцы, такі аванс нам даюць калгаснікі, на які нельга забыцца.

Так, на гэта нельга забыцца. Нельга забыцца і на тое, як нас сустракалі далей — у Шчучыне і Мастах, у гродзенскім абкоме партыі, дзе першы сакратар абкома Іван Фёдаравіч Мікуловіч расказаў нам шмат цікавага пра людзей, пра іх справы.

— Пра азотнатукавы завод, пра тонкасуконны камбінат і многія іншыя прадпрыемствы, вы, відаць, чулі. Дадам яшчэ, што кожная чацвёртая аўтамашына ў нашай краіне бегае з карданам, зробленым у Гродне. А калі хочаце сёння паглядзець, як у недалёкай будучыні будуць выглядаць усе нашы вёскі, з'ездзіце у калгас «Прагрэс». На Гродзеншчыне, як і ўсюды ў нашай рэспубліцы, адбываюцца вялікія здзяйсненні. І гэты няспынны працэс штогод будзе даваць нам багатыя вынікі.

Нам сапраўды было што паглядзець у ордэна Леніна калгасе «Прагрэс». Мы бачылі прыгожыя двухпавярховыя катэджы з усімі, як у горадзе, выгодамі, бачылі рыштаванні новых утульных дамоў, на якіх завіхаліся муляры. Мы сустракаліся ў Палацы культуры з хлебаробамі і іх дзецьмі-школьнікамі.

Але пра шлях калгаса да масавага жыллёвага будаўніцтва па плане вядомых архітэктараў нашай рэспублікі лепш пачытаць кніжку «Новыя Верцялішкі», напісаную старшынёй калгаса «Прагрэс» Хведарам Пятровічам Сянько. У дні XXIV з'езда нашай партыі яму было прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы.

*У ЛІТАРАТУРНЫХ АБ'ЯДНАННЯХ*

# МАЛАДАЯ ПЕСНЯ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

*Як само жыццё, ідзе няспынна літаратурны працэс. Свае першыя крокі робяць юныя, яшчэ невядомыя творцы. Новае імя — заўсёды радасная неспадзяванка і загадка. Чытаеш каструбаватыя, не зусім дасканалыя радкі з крупінкамі сапраўднай паэзіі, і хочацца верыць, што вось з гэтага юнака расце добры паэт — унук вялікага Янкі Купалы. Магчыма тут і перабольшванне, бо ўяўленне часам дамалёўвае тое, чаго пакуль няма ў творах пачаткоўца.*

*Вучні, студэнты, дэмабілізаваныя салдаты... Нясуць яны ў паэзію святло і прыгажосць юнацкага свету. І пры ўсёй чароўнай навізне ёсць прывабная вернасць традыцыям, якая праяўляецца ў адчуванні грамадзянскага абавязку і разуменні нашых ідэалаў. З прыемнасцю прадстаўляю чытачам штотыднёвіка маіх юных землякоў.*

Аляксей ПЫСІН.

**Мікола МІНЧАНКА**



## СПАДЧЫНА

**Мне трэба ў спадчыну слава**
**бацькоўская,**
**Песня матулі з калінавым сокам,**
**І чыстае неба вясны васільковае**
**З бязмежжам яго высокім.**

**Мне трэба ў спадчыну ранне**
**турботнае,**
**І мазалі шчырых рук працавітых,**
**І дом, каб глядзеў на вуліцу вокнамі,**
**Каб сын памятаў і жывых і забітых.**

**Мне трэба ў спадчыну вера вялікая**
**У сілу жыцця, у яго прамяністасць,**
**Каб вечна ў дарогу нялёгкую клікала**
**Будзённасць жыцця і яго**
**урачыстасць.**

**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ**



●

**Я цябе адчуваю, жыццё,**
**Як уласнага сэрца біццё.**
**Бачу клопаты ўсе твае,**
**Бачу ўсё, чаго нестае.**
**Па крупінках, нібыта соль,**
**Пазнаю тваю радасць і боль.**
**Твой агонь прыму, як зару.**
**А спатрэбіцца — ў ім згару.**
**Ад таго, што як сэрца біццё,**
**Адчуваю цябе, жыццё.**

**Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ**



●

**Яны не ведалі, чаму**
**Загналі іх у пуню гэту...**
**Дзіця ля матчыных грудзей**
**Сагрэта,**
**Ружовы сон глядзіць...**
**А кулямёт дрыжыць...**
**Пражэрлівы агонь**
**Вуглы ў гарачцы абхапіў,**
**Крывёй і стогнамі ваколле напаіў.**
**Знямелая жанчына**
**Рукой дрыготкай засланіла сына..**
**Замоўклі крыкі. Цішыня**
**На папялішча жудаснае ўпала.**
**Крывёй акропленая**
**зара вясновая**
**ўзышла над вёскаю**
**маленькаю, бязвіннай,—**
**вялікай у трагедыі сваёй...**
**О вёска!**
**Каміноў палоска,**
**Якія звоняць звонам сэрца...**



## Перапёлачка

У акне шэра... Так было і ноччу, калі я, кладучыся спаць, выключыў у сваім нумары святло. На маім гадзінніку яшчэ амаль нічога не ўбачыш. Збоку ад мяне ледзь прыкметна бялее тэлефонны апарат. Ён стаіць на паліраванай дошцы, што ідзе паўз сцяну на даўжыню ўсяго ложка. На што тут гэтая дошка? Няўжо толькі для таго, каб ставіць на яе тэлефонны апарат? То ноччу ж ніхто не звоніць, а ўдзень цераз ложак не дастанеш рукою тэлефонную трубку. Аб гэтую дошку я некалькі разоў выцяўся ноччу ілбом.

А столік каля акна зусім пусты. На самым ражку яго стаіць толькі вентылятар—маленькі, ружова-белы. Спрабаваў учора ўключыць яго—не ўключаецца. Цяпер ён таксама крышку прыкметны на фоне цьмянай у змроку сцяны.

Колькі ж цяпер часу? Можа яшчэ і рана, але сон ужо не бярэ. І ўставаць не хочацца, уключаць святло. Ведаю, што калі паляну ў вочы зыркай лямпачкай, то ўжо не хутка засну, хоць цяпер можа яшчэ і далёка да дня.

Ляжу, думаю... Чамусьці ўспомнілася тая манашка, што ўчора каля самай гасцініцы перайшла мне дарогу. Маладая, чырванашчокая. Зграбная постаць так і пераліваецца пры хадзе. Колькі пражыў на свеце, а маладую манашку ўбачыў упершыню, толькі ўяўляў яе па вядомым вершы Максіма Танка.

Потым успомніўся яшчэ конь на пероне.

...Пераехалі граніцу, і я амаль да самага змяркання глядзеў у акно. Такія ж самыя, як і ў нас, заснежаныя пералескі праплывалі непадалёк, такія ж палеткі... Можа дзе і былі там межы, але снег іх згладзіў. У прыдарожных будынках таксама не заўважалася асаблівай розніцы, і людзі сяды-тады праходзілі ў такой жа, як і ў нас, вопратцы, толькі канфедэраткі былі ў некаторых мужчын на галаве. А вось конь на пероне з доўгімі санямі трохі здзівіў мяне. Чалавек у канфедэратцы зграбаў з перона снег і павольнымі ўзмахамі ўскідваў яго на сані... Колькі ж разоў яму трэба будзе вяртацца, каб вывезці з перона ўвесь снег? Колькі ж ён заробіць за дзень, калі працуе здзельна?

...У нумары нязвычная для мяне цішыня, бо ў маёй кватэры дома нават і самай глыбокай ноччу не бывае так ціха: машыны ходзяць усю ноч. Тут ціха, мабыць ад таго, што акно нумара выходзіць у нейкі двор, і на калідоры не стаіць ля дзвярэй столік дзяжурнай. Чую, як старанна цікае маятнік майго ручнога гадзінніка. Чую, а стрэлак усё яшчэ не бачу... Крыху самотна робіцца, хоць і намагаюся не паддавацца такому адчуванню. Не надта часта так бывае, каб прачынацца ў нумары гасцініцы і не пачуць адразу сапенне, а часцей — храпенне суседа па ложку. І зусім яшчэ не бывалы для мяне выпадак — начаваць у замежнай гасцініцы.

І раптам загаварыла радыё. Рупарчык, умаціраваны ў сцяну, быў, відаць, не выключаны, я нават і не заўважыў яго, калі ўладжваўся ў нумары. Дыктар на польскай мове павітаўся са слухачамі, і мне здалося, што ў першую чаргу — са мною. Потым ён сказаў, што цяпер гадзіна **шуста** па варшаўскаму часу. Гэта значыць, падумаў я, што па-нашаму, па маскоўскаму, ужо восем гадзін раніцы. Пара ўставаць, а ў целе ўсё яшчэ нейкая вялаватасць і быццам бы нерашучасць. Давай яшчэ крыху паляжу, паслухаю радыё, лежачы. Добра, што так выразна і павольна гаворыць дыктар, нібы спецыяльна для мяне: я разумею кожнае яго слова.

І вось ён абвяшчае, што зараз будзе перадавацца беларуская музыка. «Ну, сапраўды ж нібы наўмысля»,—мільгнула ў мяне думка, і на душы пацяплела. У выкананні добра зладжанага народнага аркестра загучала наша «Перапёлачка».

Я ўстаў і жвава, нібы пасля самага лепшага адпачынку, стаў збірацца на снеданне.



## Волаты Варшавы

Адну з галоўных плошчаў польскай сталіцы ўпрыгожвае велічны пасляваенны манумент. Не толькі ўпрыгожвае, а і ўзвялічвае гэтую плошчу, быццам узнімае яе над усімі іншымі плошчамі, над усімі будынкамі горада, нават высотнымі. Гэта — мужнасць, самабытнасць і надзвычайны гераізм, увасобленыя ў мастацкі вобраз жанчыны з пераможным мечам у правай руцэ. Гэта сімвал Варшавы. На манументце надпіс: «Волатам Варшавы».

Потым хадзіў я і ездзіў па вуліцах сталіцы.

— Што гэта?—здзіўлена спытаў у праважатага, першы раз убачыўшы свежыя кветкі і вянкі проста на тратуары. Людзі беражна, з ціхай павагай абыходзілі гэтыя кветкі, прытуленыя да сцяны. Абыходзілі, каб выпадкам не наступіць на іх.

— Тут фашысцкія акупанты расстрэльвалі польскіх герояў супраціўлення,—адказаў праважаты.

На сумежным квартале зноў кінуліся ў вочы букеты кветак ля сцяны аднаго з будынкаў. Далей—зноў і зноў. Усюды над кветкамі—мармуровыя памятныя дошкі, на якіх указваецца, колькі польскіх патрыётаў загінула на гэтым месцы. Такая дошка ёсць і на будынку Варшаўскага опернага тэатра. Тут цэлая горка кветак: людзі ідуць слухаць оперу і спыняюцца каля памятнага, святога месца, кладуць свежыя кветкі.

...Старадаўні і прыгожы будынак міністэрства асветы. У ліку зусім нямногіх ён астаўся цэлы, бо яго ў вайну апякалі немцы. На гэтым будынку таксама ёсць мемарыяльная дошка, але іншага характару. На дошцы ўказваецца, што тут размяшчалася нямецкае гестапа.

Клапатлівыя і ўважлівыя да ўсяго гістарычнага, палякі захавалі ў такім стане, якім ён быў, гестапаўскі засценак і арганізавалі тут своеасаблівы музей. Наведаў я гэты музей і потым ноч не спаў ад цяжкіх уражанняў і роздуму. Уваход туды зусім звычайны, чысты, добра асветлены, нібыта нават парадны. Людзей прыводзілі сюды, і яны, ступаючы ўніз па першых мармуровых прыступках, можа яшчэ і трымалі ў душы надзею на нейкую літасць, на выратаванне. Але амаль ніхто адсюль ужо не выйшаў жывым, кожнага выносілі праз чорныя дзверы нагамі наперад.

— Вось іхнія «трамваі»,—сказаў мне праважаты, пасля таго, як мы прайшлі доўгі, халодны і жудасны сваімі напамінкамі аб мінулым калідор. Я ўбачыў, асветленыя цяпер для агляду, вузкія пакоі, устаўленыя прымацаванымі да падлогі дашчанымі лаўкамі. Паміж гэтымі лаўкамі быў цесны праход, як толькі праціснуцца наглядчыку. Усё гэта сапраўды нагадвала трамвай, але не для язды. Сюды заганялі людзей, і тут яны павінны былі сядзець суткамі і чакаць допыту. Ніхто не меў права ні варухнуцца, ні вымавіць слова. За парушэнне—смяртэльныя пабоі.

За трамваямі—пакой допытаў. Каля яго доўга не пастаіш: захлынецца душа, здранцвеюць ногі. Тут розныя фашысцкія прылады катаванняў, тут уся падлога прапітана людской крывёю. Далей — адзіночныя камеры з цьмянымі закратаванымі акенцамі. Але гэта толькі назва—адзіночныя, а на самай справе тут сядзела, дакладней сказаць, стаяла адзін пры адным па некалькі вязняў, чакаючы свайго канчатковага прысуду.

Па ўсёй Польшчы ходзяць цяпер легенды пра тых варшаўскіх герояў, якія загінулі і тут, у фашысцкім засценку, і ў іншых месцах, але не здаліся на міласць ворагу, не здрадзілі сваёй Радзіме. Не згасае памяць і аб тым, што побач з польскімі патрыётамі вялі нястомную барацьбу з фашызмам лепшыя прадстаўнікі іншых народаў і ў першую чаргу—народаў Савецкага Саюза. У варшаўскіх засценках гестапа загінула нямала рускіх, украінцаў, беларусаў, нямала людзей розных нацыянальнасцяў нашай краіны.

На тэрыторыі Польшчы было больш двухсот фашысцкіх лагераў смерці. Колькі тут загінула людзей, вядома ж, і польскіх змагароў, волатаў Варшавы! Яны ахвяравалі сваім жыццём дзеля шчаслівага жыцця пакаленняў.

...Хадзіў я і ездзіў па Варшаве некалькі дзён запар. Аглядваў непаўторныя ў сваёй прыгажосці гістарычныя будынкі, старажытныя помнікі культуры, якія былі зусім знішчаны фашыстамі. Аглядваў новыя кварталы, мікрараёны...

З асобных кадраў акупанцкіх стужак, польскім і савецкім аператарам удалося склеіць фільм аб тым, як фашысты разбуралі Варшаву, і што асталося ад яе, пасля вызвалення. Я глядзеў гэты фільм. Рушыліся друзам на зямлю векавой даўнасці кварталы, помнікі культуры і архітэктуры сусветнай вядомасці і славы. Усё гэта руйнавалася ўшчэнт, выпальвалася агнём. Узнавіць гэта нават у думках здавалася немагчымым: яно ж стваралася стагоддзямі, многімі пакаленнямі людзей. Іменна ўзнавіць, а не пабудаваць на руінах новае, зусім іншае. І ўзнавіць хутка, а не на працягу дзесяцігоддзяў.

Такая задача магла б уявіцца зусім не па сіле чалавеку, не па сіле ніякаму народу, а тым больш людзям, якія столькі перажылі і панеслі такія нечуваныя страты ў часы вайны і фашысцкай акупацыі.

І ўсё ж такі людзі Польскай Народнай Рэспублікі ўзялі на сябе такую задачу. Узялі рашуча, без ваганняў, адразу пасля вызвалення сталіцы. Самі варшавяне жылі ў часовых зямлянках, а ўзнаўлялі оперны тэатр, гістарычныя помнікі і збудаванні. Недзе ў некага былі знойдзены праекты ці асобныя дэталі праектаў. Ледзь не па ўсёй Еўропе збіраліся музейныя і іншыя нацыянальныя каштоўнасці. Мне расказвалі польскія сябры, што ў краіне ёсць дзесяткі тысяч людзей, якія на працягу дваццаці пасляваенных год выкарыстоўвалі свой адпускны час для работы па ўзнаўленні Варшавы.

І вось яна ўзноўлена, старая Варшава. Ва ўсёй сваёй былой велічы, ва ўсіх рысах і дэталях, ва ўсіх гістарычных ансамблях. Створана таксама і новая Варшава, тая, якой раней не было, і на тым месцы, дзе раней нічога не было.

...Уяўляю ўсё гэта, мінулае і цяперашняе суседняга і блізкага нам народа, і перад вачыма зноў паўстае велічна-ўзнёслы манумент Варшавянкі на адной з плошчаў узноўленай сталіцы.

Жанчына з мечам у правай руцэ звяртаецца да ўсіх волатаў свету з магутным, палымяным заклікам не дапусціць больш таго, што перажыла Варшава і многія іншыя гарады і сёлы нашай планеты.

# Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# ПОЛЬСКІЯ

## Пойдзем у малочнае кафэ!



Яна прыехала з Венгрыі ў Варшаву лячыць вочы. Яна была прыгожая і маладая. Вочы таксама былі прыгожыя, хоць іх, магчыма і трэба было лячыць.

Малочнае кафэ на Кракаўскай вуліцы стала найбольш зручным месцам для яе адпачынкаў і абедаў. Тут і цана была сходнейшая і ўтульнасці больш, як у якім рэстаране.

Яе вочы, хоць можа і патрабавалі нейкага лячэння, але неўзабаве заўважылі за недалёкім столікам маладога паляка ў цемнаватых акулярах. Ён быў мясцовы і таксама хадзіў абедаць у малочнае кафэ.

На другі дзень яны абедалі за адным столікам, а праз некаторы час Ілона (так звалі дзяўчыну) заявіла, што малако ёй прынадакучыла і што вачам яно зусім не памагае.

Пачалося сумеснае наведванне рэстаранаў.

Хадзілі яны ў рэстараны некалькі дзён, а потым Ілона паведаміла паслухмянаму Эдварду (так звалі маладога паляка), што яна не мае звыкласці доўга сядзець на адным месцы, а галоўнае—варшаўскае паветра не надта спрыяе лячэнню яе вачэй.

Пачалося сумеснае падарожжа па краіне.

— Мы можам лічыць гэта і нашым вясельным падарожжам,— сказала Ілона, неяк заўважыўшы, што Эдвард з сумам і трывогай глянуў у свой пу-

*ЧАЛАВЕКУ ГАВОРАЦЬ ДЗЯКУЙ*

# У НОВЫМ КЛУБЕ—ПА-НОВАМУ!

**У самым цэнтры Навасёлак, вялікай глыбіннай вёскі, стаяць два сціплыя абеліскі. На іх — надпісы. Першы помнік ушаноўвае памяць вяскоўцаў, што загінулі ў 1933 годзе ў час паўстання супраць паноў. На другім — прозвішчы землякоў, якія паклалі галовы на франтах Вялікай Айчыннай.**

**Неяк на тэматычным вечары ў мясцовым Доме культуры сустрэліся тры пакаленні. Гэта быў вечар хвалюючых успамінаў. Выступалі ўдзельнікі хто вогненнымі дарогамі вайны дайшоў да Берліна, і маладыя хлебаробы, якія руплівай працай памнажаюць калгаснае багацце.**

**А потым са сцэны гучалі песні.**

**У Навасёлках — новы Дом культуры, прыгожы, сучасны. Пабудаваны ён на сродкі калгаса «Сцяг Леніна». Душа самадзейнасці — Ніна Карповіч, — зусім яшчэ маладая, высокая, светлавалосая дзяўчына. Пазалетась Ніна скончыла дзесяцігодку, потым курсы ў Мінску па падрыхтоўцы кіраўнікоў самадзейных харавых калектываў. І адсюль, з Навасёлак, пачынаюцца яе першыя крокі самастойнага працоўнага жыцця.**

**За дзесяць месяцаў на курсах шмат чаму не навучышся. І Ніна гэта зразумела, таму і паступіла на завочнае аддзяленне Брэсцкага музычнага вучылішча па спецыяльнасці дырыжора-харавіка. Работа цесна перапляла-ся з вучобай, тэорыя з практыкай.**

**Мастацкаму кіраўніку сельскага Дома культуры вельмі важна быць перш за ўсё арганізатарам. Бо трэба ўмець падысці да людзей рознага ўзросту, характару, спецыяльнасці. Трэба памагчы чалавеку праявіць свае здольнасці, абудзіць яго творчыя сілы. Трэба зрабіць так, каб ён не расчараваўся пасля першай жа рэпетыцыі... Хор Дома культуры пакуль яшчэ малаваты, крыху больш за трыццаць чалавек. Гэта засмучае Ніну. Але можна спадзявацца, што неўзабаве ён будзе большы.**

**Розныя людзі займаюцца ў хоры. Вось Вера Сяргута, палявод. Не так даўно на аглядзе мастацкай самадзейнасці раёна яна была адзначана дыпломам і прэміяй за выкананне песні «Валгаградская бярозка». Добра ўдаюцца ёй і беларускія народныя песні.**

# НАВЕЛЫ

ставаты кашалёк. Яму, звычайнаму рэферэнту міністэрства, не па кішэні былі ўжо нават рэстараны ў Варшаве. А тут яшчэ такое падарожжа, ледзь не на ўсё лета!..

«Вясельнае ж яно! Вясельнае!..»—апраўдваўся сам перад сабою Эдвард. І радаваўся, і ўсё больш і больш залазіў у даўгі. Пазычаў злотыя, дзе толькі мог, выбраў усе авансы і ўсё тое магчымае, што даступна было атрымаць загадзя. Хаваючыся ад Ілоны, прадаў сёе-тое з уласных рэчаў, але не спускаўся да някласных вагонаў, да прыдарожных забягайлавак. І не шкадаваў нічога, гатоў быў ісці на якія хочаш ахвяры, каб толькі быць разам з гэтай дзяўчынай, каб толькі яна была ўсім давольна.

Калі яны вярнуліся ў Варшаву, то чароўная спадарожніца першая выказала жаданне пабачыцца з маткай Эдварда. Невялікі шпацыр ад гасцініцы да кватэры Эдварда быў, напэўна, самым шчаслівым з усіх вандровак па краіне. Эдвард вёў Ілону пад руку, і ўвесь свет у гэтыя хвіліны здаваўся яму чароўным. Яны ішлі дадому. Гэта быў канец вясельнага падарожжа. Ілона магла б і астацца там дома, у маленькай сціплай кватэры, і нікуды больш не ездзіць. Бо старэнькая маці, якая ўжо колькі год намякае сыну, што адной ёй цяжка ўпраўляцца каля дому, што яна сумуе ў адзіноце, калі сын у камандзіроўках, будзе вельмі рада займець такую прыгажуню-нявестку.

Маці сапраўды зарадавалася, калі ўбачыла свайго Эдварда побач з нарачонай, калі заўважыла, што яе адзіны і быццам бы заўсёды адзінокі, маўклівы сын раптам весела заўсміхаўся, пераступіўшы парог матчынага пакоя, ды адразу пачаў нешта гаварыць, тлумачыць, збіваючыся, ледзь не на кожным слове.

Яго выручыла Ілона. Хоць яшчэ і на ламанай польскай мове, але яна даволі выразна і ўпэўнена сказала старой, што колькі дзе ні ездзіла, у якіх краінах ні пабывала, а шчасце сваё знайшла тут, у Варшаве, вось жа якраз на гэтай вуліцы, дзе іхняя кватэрка. Яна сказала далей, што моцна пакахала Эдварда, хоць ён і не такі ўжо адметны мужчына, хоць і не знімае сваіх акуляраў ні днём, ні ноччу.

Апошнія словы былі сказаны дзеля жарту, каб была прычына засмяяцца і паказаць гаспадыні сваю ўсмешку, ярка-свежую, белазубую. Ілона ведала, што яе ўсмешка кране ўсякую душу.

Маці не пакрыўдзілася за не надта высокую атэстацыю яе сына, ласкава прывітала нявестуху. Не пакрыўдзіўся і Эдвард. Ён лавіў Ілоніну ўсмешку і радасна смяяўся сам. І можа першы раз, пасля іхняга знаёмства, зняў свае цемнаватыя акуляры: да гэтага ён лічыў, што яны яму вельмі падыходзяць—так сказала адна супрацоўніца іхняга міністэрства.

Няхай Ілона што сабе хоча, тое і гаворыць пра акуляры, абы яна сказала галоўнае і самае важнае для яго: кахае, моцна кахае! Гэта першае яе прызнанне, і не яму самому, проста так, абы сказаць, а яго матулі. Старому чалавеку яна не можа гаварыць няпраўду, не можа ашукваць старога чалавека...

У той жа дзень Ілона прызналася, што вочы яе не паправіліся ў Польшчы, што тут няма такіх урачоў, якія маглі б ёй дапамагчы. А вось у Швецыі такія ўрачы ёсць.

Эдвард зноў надзеў акуляры. Ледзь не забыўшыся і пра сваю службу і пра ўсе іншыя інтарэсы і абавязкі, ён цэлымі днямі бегаў па адпаведных установах, выстойваў доўгія чэргі. Нарэшце афарміў Ілоне патрэбныя дакументы, правёў яе ў аэрапорт: калі трэба лячыцца, то трэба, тут нічога не зробіш! Паляцеў бы і сам са сваёй каханай, ды ўжо і па службе і па сродках не было ніякай магчымасці.

Пачалося доўгае пакутлівае чаканне таго шчаслівага дня, калі Ілона вернецца. Яна павінна вярнуцца, яна абяцала, яна прысягала...

Чакаў Эдвард, чакала яго маці... Абое яны марылі аб тым светлым часе, або рыхтаваліся сустрэць і назаўсёды прыняць да сябе новага сем'яніна. І паступова вылазілі са старых даўгоў, якія Эдвард займеў у час свайго вясельнага падарожжа. І паступова залазілі ў новыя даўгі, бо для жаданага сямейнага жыцця патрэбна было тое-сёе.

Мінуў апошні месяц лета, мінула і амаль уся восень, а Ілоны ўсё не было. Спачатку, калі прыходзілі са Швецыі пісьмы, ён жыў надзеяй. А потым і пісьмы перасталі прыходзіць. А потым і яго трывожнае пасланне вярнулася назад, не знайшоўшы адрасата.

Эдвард не ведаў, што рабіць, дзе і як шукаць сваю Ілонку, дзе , у каго даведацца, што з ёй здарылася? І хаваў усё гэта ад мацеры, баючыся хваляваць яе. Маці ж сама ў душы насіла цяжкую думу, а сына суцяшала, пераконвала: мала што бывае ў жыцці! І запэўнівала, што ў яе самой некалі яшчэ не такія фатэцыі здараліся. Раней пра іх Эдвард чамусьці ні разу не чуў, хоць старая любіла паўспамінаць ды паўздыхаць, ды пасмяяцца над сваім мінулым.

Напісаў Эдвард на радзіму Ілоны, у Будапешт. Чакаючы адказу, ледзь не захварэў ад перажыванняў. І зноў нічога не дачакаўся. Губляючы апошнюю надзею, пайшоў у адпаведнае пасольства, папрасіў навесці пэўныя даведкі. Там паабяцалі сёе-тое зрабіць, але ж зноў і зноў трэба было чакаць. А колькі ўжо часу прайшло, колькі спадзяванняў развеялася, колькі трывог перажыта?!

І ўсё ж такі Эдвард не пераставаў чакаць, не пераставаў уяўляць Ілону сваёй: яна снілася яму ў снах, паўставала перад вачыма на службе, на вуліцы, калі ішоў дадому, а яшчэ больш—у матчыным пакоі, дзе Ілона ўпершыню вымавіла свае першыя словы кахання. Увесь час Эдвард чуў гэтыя словы.

Нарэшце, прыйшло ад Ілоны пісьмо. Паштовы штэмпель быў не шведскі, не венгерскі. Эдвард нават не разабраў з першага позірку, чый гэта быў штэмпель, засунуў вузенькі канверцік у верхнюю кішэньку свайго пінжака: няхай пабудзе там, няхай дасць хоць крыху супакоіцца. І канверцік бялеў нейкі час тонкай рыскай, замест ражка насавой хустачкі, якую цяпер Эдвард часта забываў узяць з дому.

Каб не паказваць сваёй узрушанасці калегам па службе, хлопец выйшаў з міністэрства, знайшоў утульнае месца ў недалёкім скверыку і ўважліва разгледзеў замежны канверт. Штэмпель быў лонданскі. Дрыжачымі пальцамі адарваў рубчык, якраз той самы, што тырчэў нядаўна з кішэнькі, выняў невялічкі падблакічаны лісток. Ілона пісала, што лёс яе павярнуўся зусім нечакана і неспадзявана: жыве яна цяпер у Лондане, выйшла замуж за мільянера, але па-сапраўднаму любіць толькі яго, Эдварда. Яго аднаго! І просіць, заве, патрабуе, каб Эдвард прыехаў туды, бо мільянеру ўжо семдзесят год, ён хворы і доўга не пажыве.

...Лісток міжвольна выпаў у Эдварда з рук, затрымаўся на каленях: добра, што чалавек сеў на лаўку, перш чым пачаць чытаць. У вачах пацямнела, галаву павяло кругам, напэўна упаў бы, каб не сядзеў на лаўцы.

...Насупраць лаўкі—малады каштанік. На ім яшчэ трымаюцца ацвярдзелыя лісты, і толькі некаторыя зрываюцца і лётаюць як «ерапланы». Недзе ў далёкай падсвядомасці мільгнула ўспамінка, што некалі ў вайну маці так называла самалёты.

Каштанік круціўся і куляўся ў вачах, а лісты трымаліся... Эдвард пацёр вочы, лоб. Каштанік, нібы адумаўся, стаў на сваё месца, а прыжоўклая трава каля яго ўсё яшчэ здавалася чорнай. Тут жа ляжаў адарваны рубчык ад канверта. Нядаўна ён бялеў на пінжаку, над сэрцам...

Раптам Эдварду захацелася кінуць туды і канверт... Лонданскі канверт! Стрымаўся толькі таму, што ўспомніў: адрас ёсць на канверце, можа спатрэбіцца адрас.

Сапраўды, зваротны адрас спатрэбіўся: Эдвард у той жа дзень напісаў Ілоне, што нікуды ён са свайго дому не паедзе, а яна, калі праўда, што любіць, то няхай кідае свайго мільянера і прыязджае сюды сама. «Пойдзем разам у малочнае кафэ!».

Адаслаў Эдвард пісьмо і нічога не сказаў пра гэта сваёй матулі. Старая яшчэ доўга чакала нявестку.

□

Прайшло з таго часу больш двух год. Эдвард і цяпер жыве ў Варшаве, і цяпер працуе ў міністэрстве. Я добра ведаю яго, толькі імя сапраўднага тут не назваў. Ведаю я і тое, што ён часта ўспамінае Ілону, і вялікую тугу сваю і крыўду балючую пераадолець не можа.

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

# ДАРОГАЙ ДРУЖБЫ



М. Танк, В. Барысаў, В. Яжджынскі, Я. Брыль і І. Сікірыцкі.

Фота Ул. КРУКА.

Тры дні, 14—16 красавіка, гасціла ў Мінску дэлегацыя польскіх пісьменнікаў,— празаік і публіцыст, дырэктар «Лодзінскага выдавецтва» Веслаў Яжджынскі і паэт Ігар Сікірыцкі, сакратар лодзінскага аддзялення Саюза польскіх літаратараў. Гасцей суправаджаў вядомы перакладчык польскай прозы, загадчык аддзела літаратур сацыялістычных краін замежнай камісіі СП СССР Віктар Барысаў.

Сяброў нашых прывяла ў Беларусь не простая турысцкая цікаўнасць...

Сёлета ў чэрвені «Лодзінскае выдавецтва» выпусціць першую ў Польшчы анталогію беларускай паэзіі. Падрыхтаваны да выдання зборнік вершаў Максіма Багдановіча. На бліжэйшы час плануецца выданне анталогіі беларускага апавядання... За два апошнія гады на старонках польскіх літаратурных выданняў з'явілася нямала беларускіх вершаў і навел.

Гэта робяць для нас лодзінскія сябры — пісьменнікі і выдаўцы.

Выдавецтва «Беларусь» запланавала на 1972 год анталогію «Паэзія чырвонай Лодзі» — вершы і фрагменты з паэм тых паэтаў, ад Тувіма і Бранеўскага да самых маладых сучаснікаў, творчасць якіх звязана з Лоддзю, горадам вялікіх рэвалюцыйных традыцый. У мінулым годзе нашы часопісы і газеты даволі шчодра друкавалі апавяданні і вершы лодзінскіх паэтаў у перакладах на беларускую мову. У сакавіцкім нумары «Полымя» за гэты год змешчаны вялікі нарыс В. Яжджынскага «Рэпартаж з пустога поля» — усхваляваны расказ пра адзіны ў Еўропе, арганізаваны гітлераўцамі ў Лодзі, канцлагер для дзяцей, дзе пакутавалі і гінулі таксама і савецкія дзеці. Будуць, бясспрэчна, друкавацца творы нашых лодзінскіх калегаў у беларускіх часопісах і газетах і ў гэтым годзе, знойдзецца месца для іх і ў планах нашых выдавецтваў.

Такі пачатак нашых дзейсных творчых сувязей. Толькі пачатак. Пра гэта была гутарка ў Саюзе пісьменнікаў БССР і ў ЦК КП Беларусі, дзе гасцей прыняў загадчык аддзела культуры С. В. Марцэлеў.

У Мінску В. Яжджынскі, І. Сікірыцкі і В. Барысаў наведалі Дом-музей I з'езда РСДРП, Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Дзяржаўны Мастацкі музей БССР, паездзілі ды пахадзілі па праспектах і вуліцах горада-партызана. Яны выязджалі таксама на Навагрудчыну, дзе пазнаёміліся з мясцінамі, што звязаны з жыццём і творчасцю нашага вялікага земляка, сімвала нашай дружбы — Адама Міцкевіча. У Карэлічах госці наведалі цяжка хворага Паўла Жалезняковіча, аднаго з герояў рэвалюцыйнай барацьбы ў буржуазнай Польшчы, пажыццёвага вязня санацыйных турмаў, друга і паплечніка такіх выдатных сыноў польскага народа, як паэт Уладзіслаў Бранеўскі і легендарны рэвалюцыянер- падпольшчык Марыян Бучэк.

У Беларусь нашы госці прыбылі не адразу з Лодзі, а з Баку, ад нас накіраваліся не дахаты, а ў Вільнюс. Побач з рускай і беларускай літаратурамі пісьменнікаў і выдаўцоў чырвонай Лодзі цікавяць таксама літаратуры азербайджанская і літоўская, і з гэтымі літаратурамі ў іх пачалася жывая творчая сувязь і супрацоўніцтва.

Шчасця і поспехаў вам, дарагія сябры, на дарогах нашай братняй дружбы!

**Янка БРЫЛЬ.**

---

**Співаюць у хоры даярка Анастасія Ульянаўна Кулікoвіч, медыцынскі работнік Еўдакія Пятроўна Каласун, піянерважатая сярэдняй школы Лідзія Сенкавец. Часцяком заглядвае на рэпетыцыі старшыня мясцовага сельскага Савета Вольга Аляксандраўна Мелянчук.**

**Кіруе Домам культуры вопытны культасветработнік Надзежда Аляксандраўна Альшэўская. Больш як дзесяць гадоў назад яна скончыла Гродзенскае культурна-асветнае вучылішча. Летась паступіла на бібліятэчнае аддзяленне Мінскага педінстытута імя М. Горкага. Пройдзе некаторы час, і Надзежда Аляксандраўна атрымае другі дыплом.**

**Новы Дом культуры дзейнічае толькі другі год. Але ён стаў ужо любімым месцам адпачынку жыхароў вёскі. Тут знаходзяць сабе занятак і дарослыя, і дзеці. Не так даўно ў Доме культуры пачала працаваць музычная студыя, займаюцца ў ёй дарослыя і вучні сярэдняй школы. Заняткі вядзе вопытны педагог Леанід Сяргеевіч Шапчук. Дапамагае ён і калектыву мастацкай самадзейнасці.**

**Не магу не сказаць некалькі слоў пра старшыню мясцовага калгаса «Сцяг Леніна» Мікалая Дзямідавіча Журава. Гэта чалавек сучасных поглядаў, у якога на адным полазе едуць і гаспадар і выхавацель. Журава цікавіць не толькі ферма, механізацыя, калгаснае поле, але і тое, як адпачываюць калгаснікі, што чытаюць, якія песні спяваюць, увогуле,— усё тое, што стварае добры настрой. Разумее старшыня, што гэты настрой паспрыяе павышэнню працавітасці.**

**Ёсць у нас у раёне і яшчэ клубы, якія сталі любімым месцам адпачынку вяскоўцаў, дзе працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці. На жаль, ёсць і такія, куды заходзіць не вельмі хочацца, і акрамя кіно, у іх рэдка што бывае. Нялёгкае ў нас становішча з кадрамі. На ўвесь раён мы не маем і дзесяці спецыялістаў культасветработы. А клубаў жа больш як сорак.**

**Сёлета праводзіцца рэспубліканскі агляд раённых і гарадскіх дамоў культуры. Спадзяёмся, што гэта дапаможа нашаму раённаму Дому культуры палепшыць сваю работу, больш падсабляць сельскім клубам. Хаця і цяжка гэта рабіць, бо ў самім РДК не хапае кадраў.**

**На маю думку, сёлетні год прынясе шмат змен. І мо некаторыя кіраўнікі калгасаў урэшце павернуцца, як кажуць, тварам да культуры, і такіх клубаў, як у Навасёлках, будзе больш.**

**...Недалёка ад шашы Кобрын—Маларыта, на ўскраіне раёна, вёска Навасёлкі. Жывуць тут працавітыя, вясёлыя людзі. Па вечарах аж да поўначы свецяцца вокны Дома культуры.**

Ой, бярозы ды сосны,
Партызанскія сёстры...,—

**нібы птушка, вылятае з клуба песня. Ніна Карповіч праводзіць чарговую рэпетыцыю.**

**Стаяць, як напамінак, заснежаныя, сціплыя абеліскі.**

**Аляксей СУШЧУК,**
**загадчык Кобрынскага раённага аддзела культуры.**

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Георгі ЮРЧАНКА

## СНЯЖНЯ НА ПАВУЦЦЁ

*(Іван ПТАШНІКАЎ)*

Перша вецер ныў ценка і калюча, што збіраючыся плакаць. А на додніцы спопарадку закрутнуў высака і загаляшыў нажудка, нібы пайшоў Старосаву польку. Улукаткі насцёг спаніжэлы туляг, нямогучы справіць вытрым і, хапануўшы завірушша, аберуч кіднуў — па ашмётку — на Задзярыногіну пуню, — як хто ўсмеццем з току. Мерыўся лучыць — усё скобам — у дзюрку з даланю. Але бальшэцце разбілася — на бервянцах: не хліпнула. Толькі шчапцё сняжні бы вырвалася навыскачку: шморгнула пад шчыт. Перакрутнуўшыся ў вярхоллі шмыргнула круга легароў, ад дзядка павярнула да матачыны — наўкася. Ля пярэчкі ледзь не зачэпала павуццё, — тое самое, што зглэмзаў павуцька, якога длубнуў падцыглясты вераб'юк.

Выдарылася яно неспадзеў: страціў насцярогу. Дый було ад чаго. Пуду не чэкалася, — ціхня стаяла паўсюд, ніхто не андрымоніў. Семнаццатка Спадніцкага Малуся — з насупраткі — пайшла з граблявішчам: ці блізкі свет гэтыя Дзевятнасця Галешын. І павуцька вылез на махоцце — падумаў: не здлубаюць. Свяціла, узышоўшы, здалёку сонца. Сточанае чэрвем верхняе вянцо аціплела, і насякомы што захліпаўся: радасна. Таму не згледзеў: з ралатай сахі вераб'юк пералётнуў на разгаты тофель — у нейкім мятры ад сцяны.

Гнездаваў ён глыбока ў заваконні адкіньхвоставай хаціны — блішчэй дворышча не лучылася. Думаў пажывіцца, бо намэнчыўся без хваста дось — ад пятровак, калі вырабіла на яго нападанак Нежанісяніколіна котка. Тая — падласая памаўза — думала: умурлычыць вераб'ютка, аб'ядань за курчанё сыдзе. Кідок яна падрыхтавала што след — левай задняй удручыла ў спрагу, пярэднімі зразу — учарэпілася за бульбеўнік. У кідку толькі пачувала: пакаўзунак задняй правай. На гэтай мясцоўні Нежанісяніколіха выцурбаніла вушат мяцця. Каб сцярэпаць за голаў — не, разліку не лучыла. Толькі за хвост: ладны, доўгі. Увесь застаўся — у пярэдніх.

Які з пяра наедак: кінула свежы — яшчэ пахне пад парканнем. Сама села як усё роўна не ловячы: хоткі — няхоткі — вымусова — загавела. Аблізала ніжнюю вусну, верхнюю не кратала: раздумала...

Вераб'юк ледзь дапяў да галіны, як не ўмеючы, адтатурыўшы крылле, без хваста. Сеў сцюцюрыўшыся. Толькі тады цюкнула ў голаў: не загібеў, выцыўкаў. З таго порыва Нежанісяніколін падворак аблётваў круга, калі і ўдваёчках: са стрыечным братам. І праз тыдню лучыла шчасця нарэшце: нарваўся на павуцьку. Глыкнуў неўзмаргнівока: смакаўё!

Павуццё засталося: пылілася лета і восенню. І вось цяперак ля яго выкручвала ў танцы сняжня...

## У РАЗВЕДКУ

*(Іван ЧЫГРЫНАЎ)*

З усёй гаварні шматслоўнага яфрэйтара Івана Сачылы радавы Клім Драчыла зразумеў адно: яму належыць выпраўляцца ў разведку.

На двары стаяла размоpанае пасляб е д д з е. Праз Кашэраву лагвіну Драчыла засігаў напрасткі ў бок адзінокай халупіны, што за Шэгалавай канавай.

З усведамленнем усёй важнасці ўскладзенага на яго абавязку выйшаў Клім на ахлялы Хадосчын падворак. Напрактыкаваным позіркам прабег ён спярша па слядах адсутнасці цвёрдай гаспадарскай рукі і па чортавым серабры — падтынніку, і па ліловачырвоных васільках, і па блакітнасвінцовым букашніку.

Хадосся нешта мыла каля студні, вольна згінаючыся ў поясе. Заўважыўшы Кліма, яна прыгожа хіснулася яму насустрач усёй моцнай дужасцю незачаўранага цела. Клім ці не месяц амаль не бачыў жанчын і цяпер пажадліва талопіў вочы на ладныя, увесістыя грудзі Хадоссі і падаткнуты падол, што высвечваў поўныя любоўнага непакою калені.

Было ў ёй нешта такое багульнікавае, ад чаго Драчыла страчваў голаў. Яе па-бабску зграбная постаць і п'яны тлум вачэй клікалі прагна і настойліва, і Клім той жа міг адчуў брусні́чную замілаванасць.

— Ходзь сюдой, — з агнём чуллівай душы прапела Хадосся.

— Я ў разведку іду...—быў запярэчыў Клім.

— Разведка не збяжыць, — амаль рассмяялася жанчына. — А вось я... магу... збегчы... —як не млела яна ў бессаромнай жаночай знямозе.

Хадосся ціха ўзяла Кліма за руку і павяла ў сенцы.

— Вось драбіны, — паказала яна вачыма знізу ўверх на паддашак і як не сцепанулася ад прайшоўшай па целе гарачай хвалі.

З нейкай нерашучасцю перастаўляў Клім ногі па прыступках драбін, і яны рыпелі натужна і глуха. Затое драбіны парыпвалі адрывіста і лёгка, пад нагамі Хадоссі — услед за ім — нібы радуючыся яе неспадзяванаму калінаваму шчасцю.

## ЛЁКСА І СТЭПА

*(Анатоль КУДРАВЕЦ)*

Калі Лёкса ўзбіўся на шлях, неба мурзалася, але пасля нейкай гадзіны хмары як рассунуліся.

Была субота. За два тыдні Лёкса зніякавеў душою ў горадзе. Хацелася ў вёску, цягнула зацята, неадольна. Пехам чатыры гадзіны праскочылі як міг, і ён не прыкмеціў калі апынуўся ля роднай аселіцы.

— Неча гультаяваць, — пачуў Лёкса раптам амаль знаёмы голас. Ля веснічак крайняй хаты стаяла Стэпа і зґаладала чыркала чаравіком па зямлі.

— Ідзі дапамажы, чарка будзе.

— А можа я не хачу? — запытаў як дзеля гадзісь, бо ведаў: зойдзе абавязкова. Дый Стэпа была дзеўка



ласістая. Што ні кажы, а тройчы пабывала замужам. Не кожнай гэтак шанцуе. Праўда мужыкі на другі дзень адразу білі ў хамут. Чаму — нікому невядома. І цяперака па ўсяму відаць было: яна аж пішчыць — зноў замуж хоча.

— Заходзь, заходзь, не пакрыўджу.

Лёкса пераступіў парог. Свежая кроў і вантробы густа ўдарылі па чыхаўцы. На слоне, падкурчыўшыся, ляжаў сярэдні кабан, асмалены і выскаблены, і дакорліва, не мігаючы, таропіўся на Лёксу.

— Стэпа, — звярнуўся ён да гаспадыні. — мо дарэмна калолі? Каму ж гэта прыемна, калі коляць?

— Выдумай, — хмэкнула Стэпа.— Свежаніну ты ж любіш...

Яна аціхла, стаяла, склаўшы рукі на прыполе. Нешта незразумела-светлае соладка і тоненька заныла ў грудзях. Ласкавы туман забыцця, нягледзячы на пусты пасля дарогі жывот, прывёў да яснаты цвярозага азарэння: яе можна кахаць... Шчымлівае і размякчанае даўняе памкнула ўсю яго істоту да Стэпы.

...Калі абодва ачомаліся пасля хапатлівай узрушанасці, узялося на панядзелак. Ні забегчы да старых, ні тым больш разбіраць кабана часу не засталося. Спяшаючыся, узбіўся на шлях. Ішоў як у тумане, не разумеючы, што робіцца з ім. За ўсю дарогу, да самай прахадной, — Лёкса не вырашыў, ці заставацца на заводзе, ці вяртацца ў вёску....

## ПА НІШЧЫМНІЦЫ

*(Мікола МАЛЯЎКА)*

Я даражыў шпакоўняй,
пер'ем.
Я абыходзіўся штогод
Жыццём —
Нішчымніцаю шэрай
Без жоўтых скалачак
прыгод.



**Не баючыся кары боскай,**
**Задраўшы нагаль дзве нагі,**
**Шпурнуў я смела ў кошку соскай**
**І вывеў гнуткае ку-гі-і-і...**

**У маёй душы — дрымотнай пушчы —**
**З тае пары—каторы год—**
**Няўтомна хтосьці песню трушчыць**
**Без жоўтых скалачак прыгод.**

**З жыцця не браў я поўнай жменяй.**
**Яно нясе—ў каторы раз!—**
**Адну нішчымную крупеню**
**Замест вяндліны і каўбас.**

**Таму і верш мой бровы хмурыць,**
**Яго чытаць—аж зводзіць рот:**
**Як быццам таркаю па скуры**
**Шаруе нейкі абармот.**

Лявон КУДЛА

## ПРАБАВІЛІ ЧАС

Іх было трое: маладая жанчына і два мужчыны. Яны, як я,—прыезджыя. Ім, як і мне, захацелася прагуляцца па вячэрнім Вільнюсе. Яны былі ўперадзе, я — крокаў з дваццаць ад іх.

Вечар быў ціхі, цёплы. Ліхтары прыемна асвятлялі зеляніну дрэў і клумбы.

На плошчы жанчына сказала папольску:

— Помнік? Паглядзім каму?

За імі падышоў я. Помнік быў слаба асветлены, адзін з мужчын узняўся на прыступку да п'едэстала.

— Цяжка прачытаць. Ага... Міцкявічус. Значыць, Міцкевіч.

— Міцкевіч? Але ж у Адама Міцкевіча не было вусоў, — запярэчыла жанчына.

— Значыць, былі, — пацiснуў плячыма мужчына, які стаяў побач.

— Я не бачыла ніводнага здымка, каб Адам Міцкевіч быў з вусамі.

— Золатка, — сказаў лагодна мужчына, які стаяў побач. Ён, відаць, быў яе мужам. — Ты павінна ведаць, што ў той час, калі жыў Адам Міцкевіч, фатаграфія не была такой масавай з'явай, як цяпер. Магчыма, Адам Міцкевіч хадзіў з вусамі, а для фатографа галіў іх.

— І валасы ў Міцкевіча былі доўгія. А тут ён амаль лысы.

— Ну ведаеш... І я калі з табой пазнаёміўся меў вунь якую чупрыну, а цяпер?

— Што ты раўняеш сябе з Міцкевічам? Адам Міцкевіч вялікі паэт, а ты...

— Кожны, золатка, займаецца сваёй справай.

— А можа гэта не Міцкевіч?

— Напісана па-літоўску: «Міцкявічус» — значыць Міцкевіч.

— Пераблыталі...

— Ты заўсёды з недаверам, — адказаў муж. — Той, хто збудаваў помнік, лепш ведае. Раз напісана Міцкевіч — значыць Міцкевіч.

— Так, гэта Міцкевіч, — умяшаўся я ў гаворку.

— Ну вось, бачыш, — зірнуў на мяне з падзякай муж.

Ледзь стрымліваючы ўсмешку, я працягваў:

— Вільнюс — горад трох Міцкевічаў: польскага паэта Адама Міцкевіча, беларускага песняра Канстанціна Міцкевіча — Якуба Коласа і Міцкявічуса-Капсукаса Вінцаса—літаратара і рэвалюцыянера. Вось яму, Міцкявічусу-Капсукасу, і пастаўлены гэты помнік.

— Ну што, бачыш, а што я казала? — упікнула жонка і пайшла. Муж за ёй.

— Золатка. Ну навошта хвалявацца? Якая розніца — Адам ці Вінцась? Раз паставілі помнік — ён заслужыў...

— Ім гэтай спрэчкі хопіць да раніцы, — усміхнуўся мужчына, які стаяў ля п'едэстала, і пайшоў услед за сваімі сябрамі.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 09692

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.